


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

16 кастрычніка 2015 года №42 **(1068)**

**За месяц знікла 8-месячная запазычанасць па заробках. Эксперт адказвае, на што падымуцца цэны**

старонка 3

**Ці ўтрымаецца ФК “Маладзечна-ДЮСШ-4” у лідарах лігі (турнірная табліца)**



старонка 22

ЭКСКЛЮЗІЎ

**Галіна Шаранговіч – расіянка, якая рэдагавала творы беларускіх класікаў**

старонкі 20-21

**Каб пачаць жыць, трэба прачнуцца. Рэцэнзія прэм’еры “Дзядзечкаў сон”**



старонка 6



# Што атрымае Вілейка ў дажынкавым снапе



старонка 2

Фота vegafood.com.ua..


Фота tut.by.

Святлана Алексіевіч.

● ПЕРАМОГА

## Першая беларуска ў гісторыі атрымала Нобелеўскую прэмію

**Нобелеўскую прэмію па літаратуры 2015 атрымала Святлана Алексіевіч.**

Патэнцыйнымі канкурэнтамі Алексіевіч сёлета былі **Эн Карсан** з Канады, **Нгугі Уа Тыёнга** з Кеніі, **Філіп Рот** і **Дон ДэЛіла** з ЗША, **Нурудын Фарах** з Самалі, **Пэтэр Гандке** з Аўстрыі, японец **Харукі Муракамі**.

Летась Нобелеўскаю прэмію ў галіне літаратуры далі **Патрыку Мад'яно**. Алексіевіч таксама называлася сярод фаварытаў.

Уручэнне Нобелеўскіх прэмій адбудзецца ў Стакгольме 10 снежня. Лаўрэат атрымае $969 602 (на сёння).

Брат Святланы Алексіевіч **Аляксандр** жыў у Мядзеле, працаваў у раённай газеце "Нарачанская зара".

**Паводле Belsat.eu, аддзел інфармацыі.**

● УЛАДА

## ЦВК: Лукашэнка перамог на выбарах з 83,47% галасоў

**Лідзія Ярмошына адзначыла, што гэта папярэднія дадзеныя.**

БелТА ўдакладняе, што больш за 6% выбаршчыкаў прагаласавалі супраць усіх кандыдатаў.

Як паведамляе Цэнтрвыбаркам, яўка выбаршчыкаў – 87,21 %.

Паводле ЦВК, галасы размеркаваліся наступным чынам: **Аляксандр Лукашэнка** – 83,47%, **Таццяна Караткевіч** – 4,43%, **Сяргей Гайдукевіч** – 3,31%, **Мікалай Улаховіч** – 1,67%.

**Аддзел інфармацыі.**

● УЗНАГАРОДЫ

## Мастака з Вілейшчыны Барыса Цітовіча ўзнагародзілі ордэнам Францішка Скарыны

ВІЛЕЙКА

8 кастрычніка **Аляксандр Лукашэнка** уручыў 39 дзяржаўных узнагарод.

Сярод узнагароджаных – навукоўцы, ваенныя, дзеячы мастацтваў, прамыслоўцы, настаўнікі, шматдзетныя мамы, спартсмены.

Узнагародзілі **Барыса Цітовіча** ордэнам Францішка Скарыны.

**Аддзел інфармацыі.**

**Даведка "РГ". Ордэнам Францішка Скарыны** ўзнагароджваюць грамадзян за значныя поспехі ў галіне нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння, даследаванні гісторыі Беларусі, дасягненні ў галіне нацыянальнай мовы, літаратуры, мастацтва, культурна-асветніцкай дзейнасці. Узнагароджваліся нашы землякі: заслужаны дзеяч культуры дырэктар Маладзечанскага музкаледжа **Рыгор Сарока**, кампазітар і спявак **Юры Антонаў**, які жыў у Маладзечне, ураджэнец Вілейшчыны, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра імя Жыновіча **Міхаіл Казінец**, дырэктар Турэц-Баярскай школы Маладзечанскага раёна **Павел Быкаў**, ураджэнец Смаргоні дырыжор **Віктар Роўда**.

● ТЭМА НУМАРА


Фота Ігара МАРОЗА.

Новае азярцо з'явіцца на выездзе з Вілейкі ў бок Маладзечна.

# Што атрымае Вілейка да абласных "Дажынак"

ВІЛЕЙКА

**Абноўлены Палац культуры, новае азярцо – якія яшчэ важныя змены ў горадзе адбудуцца да абласнога свята, намечанага на 14 лістапада.**

На цэнтральнай плошчы праводзяць рамонт фантана. Значныя змены чакаюць Палац культуры. Абновяць фасад будынка, установяць новыя вокны. Набудзе новы выгляд палац не толькі звонку: адраманцуюць яго і ў сярэдзіне.

Зменіцца і плошча Свабоды. Там ужо добраўпарадкавалі сквер.

У гарадскім парку, дзе сёлета з'явіліся дзіцячая і спартыўная пляцоўкі, каля старой танцпляцоўкі зробяць прыгожую лесвіцу да Віліі.

На тэрыторыі парку мяркуюць прадоўжыць установку агароджы. Ля рынку абсталявалі зону паркоўкі.

### Кожнаму прадпрыемству ці арганізацыі пастаўленыя задачы

Шмат дзе ў Вілейцы абнаўляюць фасады будынкаў, прыводзяць у парадак дваровыя тэрыторыі. Таксама мяняюць апоры асвятлення, лініі электраперадач.

Ліхтары мяняюць на святлодыёдныя. Яны яшчэ больш эканамічныя, чым энергазберагальныя.

Увогуле, кожнаму прадпрыемству ці арганізацыі паставілі свае задачы. Задзейнічалі таксама прыватныя арганізацыі.

Працягнуцца працы на гарадскім стадыёне. Пасля таго, як скончыцца першая чарга прац – будаўніцтва адміністрацыйны-бытавога корпуса, пачнецца другі этап.

Напачатку плануюць узвесці новую агароджу.

**На вуліцы Кастрычніцкай замянілі цяпласеткі, пакладуць новае асфальтабетоннае пакрыццё.**

Некаторыя планавыя працы таксама мяркуюць завяршыць да абласных "Дажынак" – як будаўніцтва ліўневай каналізацыі і добраўпарадкаванне вуліцы 1 Мая.

– Яшчэ зносяцца старыя трухлявыя дамы і канструкцыі, якія псуюць выгляд горада. На гэтых пляцоўках у наступным годзе будзе весціся будаўніцтва, – кажа намеснік старшыні райвыканкама **Аляксандр Чарменскі**. – Важна, каб людзі адносіліся да ўсіх прац з разуменнем, таму што іх праводзіць неабходна. І ўладзе разам з жыхарамі трэба знаходзіць узаемаразуменне. Заўсёды можна дамовіцца, пайсці адзін аднаму насустрач – як, напрыклад, у выпадку зносу трухлявых пабудоў.

### Новае азярцо на ўездзе

Да свята добраўпарадкуюць уезды ў горад. Праведуць рамонт шэрагу вуліц (у планах – Лаўрыновіча, Валынца, Вадап'янава, Шубіна, Прывакзальная, 1 Мая, Кастрычніцкая).

А на выездзе на Маладзечна ідзе высечка хмызняку і добраўпарадкоўваецца азярцо.

– Адзін раз зробім – і краявід зменіцца. Адно, што бур'ян рос, а што будзе на яго месцы азярцо, – тлумачыць Аляксандр Чарменскі. – Пераважна нацэльваемся так, каб гэта былі не разавыя мерапрыемствы. Добраўпарадкуем горад, каб тут было камфортна жыць. І пасля "Дажынак" плануем актыўна працаваць па навядзенні парадку ў Вілейцы.


Алесь **ВЫСОЦКІ**
alvy@tut.by

● ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

## Дарожнікі тлумачаць, навошта замуравалі на прыпынку вадасцёк

ВІЛЕЙКА

**Чытач "РГ" Алесь Раткевіч непакоіцца, што на новым прыпынку можа з'явіцца "лебядзінае возера".**

Працягваем цытаваць яго ліст з пытаннямі да работнікаў дарожных службаў:

"На аўтадарозе Мінск-Калачы-Мядзел, пры павароце на пасёлак Партызанскі, дарожнікі цэлае лета рабілі аўтобусны прыпынак. Так і не давялі пачатае да канца. А бетонны вадасцёк ад яго замуравалі бардзюрам! Можа, зрабілі такое наўмысна? І ўжо неўзабаве на аўтобусным прыпынку з'явіцца нейкае "лебядзінае возера"?

Адказвае галоўны інжынер філіяла ДЭУ-63 "Мінскаўтадар-Цэнтра" **Андрэй Пісарук**.

– Зрабілі так спецыяльна: у сувязі з тым, што поўнае застыванне бетону па ўсіх нарматыўных дакументах складае 28 сутак. Таму спецыяльна не пускалі ваду, каб яна не пайшла ў латок раней і не размыла бетон, пакуль ён не набраў належную трываласць.

Пасля таго, як прайшоў нарматыўны тэрмін і бетон цалкам схапіўся, выразалі адтуліну ў бардзюры і далі вадзе праход у латок.

На прыпынку мяркуем на гэтым тыдні пакласці асфальтабетоннае пакрыццё на так званых "кішэнях" (месца спынення аўтобуса). І ў прынцыпе ўзвядзенне прыпынку ў поўным аб'ёме будзе завершанае.

**Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Колькасць арганізацый у рэгіёне, якія маюць запазычанасць**




**Колькасць работнікаў у Беларусі, якім не выплацілі заробак**




**Колькасць арганізацый у Беларусі, якія маюць запазычанасць**




**Сума запазычанасці па заробках у Беларусі**




Інфармацыя на пачатак кожнага месяца 2015 года. Паводле Нацстата. Графікі Настассі Роўды.

● ЭКАНОМІКА

# За верасень у рэгіёне знікла запазычанасць па заробках

**Цягам васьмі папярэдніх месяцаў у рэгіёне ад 20 да амаль 80 прадпрыемстваў мелі нявыплаты па заробках.**

Сёлета цягам верасня ўпершыню ўсю запазычанасць выплацілі.

Беларускі эканамічны аналітык **Сяргей Чалы** лічыць, што запазычанасць ліквідавалі ў загадным парадку напярэдадні выбараў.

### Які эканамічны прагноз дае аналітык

Паводле версіі Сяргея Чалага, курсы долара і еўра моцна ўздымацца ці падаць не павінны. Затое можа вырасці інфляцыя.

Эканаміст не чакае, што падскочыць цана на паліва.

Заробкі, хутчэй за ўсё, не парадуюць беларусаў. Паколькі іх рост магчымы толькі пры росце вытворчасці працы, то павышэння чакаць няма адкуль.

Аналітык упэўнены ў будучым падаражэнні камунальных паслуг. Як звычайна, яно адбудзецца паступова. Магчыма, больш інтэнсіўны рост традыцыйна пачнецца пасля 1 студзеня.

### Афіцыйна: чакаць павышэння камуналкі варта

Словы незалежнага эканамічнага аналітыка пацвердзіў 13 кастрычніка міністр энергетыкі **Уладзімір Патупчык**, паведамляе БелаПАН.

– Тарыфы дастаткова стабільныя на нашым рынку. У найбліжэйшым часе ў межах праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця мы пралічваем тарыфы на сярэднетэрміновую і кароткатэрміновую перспектыву. Каб мы не адставалі ад тых працэсаў, якія адбываюцца ў макраэканоміцы, тарыфы для насельніцтва будуць павышацца, але яны будуць прывязаныя да ўзроўню даходаў нашых людзей, – сказаў міністр.

**Настасся РОЎДА.**






| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 8.10 | 15.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 17 413,00 | **17 343,00** |
| Еўра | 19 562,00 | **19 793,00** |
| Злоты | 4 650,41 | **4 634,59** |
| Расійскі рубель | 270,47 | **274,76** |
| Грыўня | 829,99 | **784,66** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 14.10** | | |
| Еўра | 19500/19780 | **19600/19850** |
| Долар ЗША | 17400/17640 | **17220/17450** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 7.10 | 14.10 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 139 900 | **139 900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **53 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 26 800 | **26 800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 90 000 | **80 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 38 900 | **38 900** |
| Селядзец, 1 кг | 49 500 | **49 500** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 121 000 | **121 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 13 500 | **13 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 16 500 | **16 500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 10 000 | **13 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 23 500 | **23 500** |
| Маянэз, 200 г | 4 500 | **4 500** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 13 000 | **13 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 900 | **5 900** |
| Часнок, 1 кг | - | **47 900** |
| Капуста, 1 кг | 4 000 | **3 500** |
| Морква, 1 кг | 5 900 | **5 900** |
| Баклажаны, 1 кг | 12 500 | **14 900** |
| Лімоны, 1 кг | 39 500 | **37 900** |
| Апельсіны, 1 кг | 27 900 | **27 900** |
| Мандарыны, 1 кг | 27 900 | **29 900** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 32 000 | **29 900** |
| Ківі, 1 кг | 34 900 | **29 900** |
| Нектарыны, 1 кг | 34 900 | **29 900** |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | **6 000** |
| Памідоры, 1 кг | 10 900 | **14 500** |
| Агуркі, 1 кг | 14 900 | **18 900** |
| Перац, 1 кг | 9 900 | **14 500** |
| Вінаград, 1 кг | 23 500 | **24 900** |
| Бананы, 1 кг | 21 500 | **17 900** |
| Кавун, 1 кг | 3 500 | **4 000** |
| Дыня ("тарпеда"), 1кг | 12 000 | **13 000** |
| Хурма, 1 кг | - | **45 000** |
| Памела, 1 кг | - | **39 500** |
| Яблыкі, 1 кг | 9 900 | **9 900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 19 900 | **22 900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг | 2 500 | **2 500** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

РАЗБОЙ

# Затрымалі падазраваных у разбойным нападзе

МЯДЗЕЛ, СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ

**Як паведамлялі раней, удзень 1 верасня ў вёсцы Мокрыца Занарацкага сельсавета Мядзельскага раёна невядомы пранік у дом мясцовага жыхара.**



Даўгі вымусілі маладзёнаў пайсці на злачынства.

Прычыніў яму шматлікія цялесныя пашкоджанні. Скраў грошы, банкаўскую картку і іншую маёмасць.

Следчыя Мядзельскага райаддзела Следчага камітэта ва ўзаемадзеянні з супрацоўнікамі крымінальнага вышуку УУС Мінаблвыканкама ўстанавілі асоб, якія мелі дачыненне да супрацьпраўных дзеянняў.

Па непасрэдным падазрэнні ў здзяйсненні злачынства затрымалі двух мужчын: 30-гадовага жыхара Ашмянаў і 24-гадовага жыхара Мінска. Раней яны былі судзімыя за хуліганства.

– Следства ўстанавіла, што абодва пераследавалі карыслівы матыў, – расказала афіцыйны прадстаўнік Упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**. – 30-гадовы мужчына мае запазычанасць па крэдытах перад банкамі, 24-гадовы малады чалавек прайграў буйную грашовую суму ў гульнявых аўтаматах. У сувязі з чым вырашылі ўчыніць злачынства. Спланавалі ролі і прыехалі ў вёску на аўтамабілі, які належыць старэйшаму з фігурантаў.

Пасля здзяйснення разбойнага нападу саўдзельнікі накіраваліся ў Смаргонь, дзе з мерамі канспірацыі з выкрадзенай банкаўскай карткі знялі больш за два з паловай мільёны рублёў.

Затрыманым прад'явілі абвінавачванне за разбой, учынены групай асоб, з пранікненнем у жыллё. Яны заключаныя пад варту.

**Аддзел інфармацыі.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Налавіў рыбы на 30 мільёнаў

ВІЛЕЙКА

Жыхара Вілейкі з уловам на беразе Вілейскага вадасховішча 2 кастрычніка сустрэлі супрацоўнікі Мядзельскай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.

– Ён паставіў чатыры рыбалоўныя сеткі на вадасховішчы паблізу вёскі Кобузі. У гора-парушальніка ўлоў склаў 50 рыбін розных відаў, сярод іх – 13 судакоў, 26 ляшчоў, шэсць акунёў. Агульная вага рыбы перавысіла 31 кілаграм, – расказаў намеснік начальніка Мядзельскай міжрайінспекцыі **Валянцін Галубовіч**.

Мужчына прычыніў навакольнаму асяроддзю шкоду на суму каля 30 мільёнаў рублёў. У парушальніка канфіскавалі лодку, на якой здабываў рыбу, і чатыры сеткі. Агульная іх даўжыня 260 метраў.

На месца затрымання выклікалі прадстаўнікоў РАУС і райаддзела Следчага камітэта. Паколькі навакольнаму асяроддзю нанеслі шкоду ў буйным памеры, распачалі крымінальную справу за браканьерства, дадаў Валянцін Галубовіч.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## У Маладзечне абакралі кіёск "Мінаблсаюздруку"

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося ў ноч з 5 на 6 кастрычніка.

Кіяскёр прыйшла раніцай на працу ў кіёск "Мінаблсаюздруку", што знаходзіцца на аўтавакзале.

Яна заўважыла, што ралеты пашкоджаныя. Выклікала міліцыю.

Зламыснік скраў з кіёска, які не быў абсталяваны сігналізацыяй, латарэйныя білеты, пасцельную бялізну, цыгарэты, праязныя талоны і грашовую выручку. Агульная сума шкоды склала больш за 29 мільёнаў рублёў.

– 7 кастрычніка зламыснік затрыманы. Ім аказаўся раней судзімы непрацуючы жыхар Маладзечна. Усё скрадзенае ў яго канфіскавалі, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" следчы Маладзечанскага РАСК **Аляксандр Крукоўскі**.

**Наталля ТУР.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Пачынаецца акцыя "Стань заўважным" – самы час набыць флікер

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 15 да 25 кастрычніка пройдзе абласная прафілактычная акцыя "Стань заўважным". Міліцыянеры праверацъ, як выконваюць правілы дарожнага руху ў цёмны час сутак яго ўдзельнікі.

Спецыяльныя рэйдавыя групы штодзень будуць шукаць пешаходаў і кіроўцаў, якія не выконваюць правілы дарожнага руху і не маюць флікераў.

Калі вы ўбачылі на праезнай частцы альбо побач з ёй нецвярозага чалавека, паведамляйце па тэлефоне **(80176) 77-16-56** альбо па тэлефоне **102**.

## Шукаюць сведкаў аварыі каля таварыства Старынкі

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося 16 жніўня каля 15 гадзін на аўтадарозе Радашкавічы-Алёхнавічы-Гарадок, побач з садовым таварыства "Старынкі".

У здарэнні ўдзельнічалі два аўтамабілі – "Рэно-Лагуна" і "БМВ".

Калі хто нешта ведае пра гэтае здарэнне, паведамляйце на адрас: Маладзечна, вул. Т.Дудко, 1, каб. 18, 19 альбо па тэлефоне **(80176) 74-53-40** ці **102**.

## Шукаюць відавочцаў здарэння каля Лазоўца

МАЛАДЗЕЧНА

16 жніўня каля 17:30 на аўтадарозе Мінск-Нарач, побач з паваротам на могілкі "Лазовец", неўстаноўлены аўтамабіль шэрага колеру наехаў на пешахода. Ён з цялеснымі пашкоджаннямі пазней звярнуўся ў Цэнтральную раённую бальніцу №1.

Калі вы нешта ведаеце пра гэтае здарэнне, паведамляйце на адрас: Маладзечна, вул. Т.Дудко, 1, каб. 18, 19 альбо па тэлефоне **(80176) 74-53-40** ці **102**.

**Дзмітры ЮРКЕВІЧ, начальнік аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС.**

ПАЛЯВАННЕ

## Як зрабіць паляванне бяспечным

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад 1 кастрычніка пачалося загоннае паляванне на капытных жывёл. Ад 3 кастрычніка адкрыўся сезон палявання на зайца-русака і зайца-беляка з дыпламаванымі гончымі сабакамі.**

Падчас палявання неабходна трымацца Правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, Правілаў бяспечнага палявання і Правілаў бяспечнага абыходжання са зброяй.

Іх парушэнні – галоўная прычына ўсіх няшчасных выпадкаў на паляванні.

**Паводле Правілаў бяспечнага палявання, забараняецца:**

- выкарыстоўваць паляўнічую зброю з няспраўнасцямі,
- прымяняць патроны, якія не адпавядаюць паляўнічай зброі,
- ехаць у транспарце з зараджаным ружжом,
- даставаць сабраную стрэльбу за ствол з лодкі, павозкі, саней ці іншага транспарту,
- страляць на шум, шорах, па слабабачнай цэлі, а таксама ў тумане, у моцны снегапад, супраць сонца, увогуле пры кепскай бачнасці. Нельга страляць пры абмежаванай бачнасці і па птушцы пры ўзлёце, калі яна ніжэй за 2,5 метра ад зямлі.
- страляць ці быць з зараджанай зброяй менш чым у 200 метрах ад крайняга будынка населенага пункта,
- страляць у бок людзей, населеных пунктаў, сельскагаспадарчых жывёл, транспарту з агнястрэльнай гладкаствольнай зброі на адлегласці менш за 500 метраў і з агнястрэльнай зброі з наразным ствалом пры адлегласці менш за 2 кіламетры,
- накіроўваць стрэльбу, у тым ліку незараджаную, на чалавека, хатнюю жывёлу ці месца іх размяшчэння,
- без неабходнасці страляць, узводзіць курок ці здымаць з засцерагальніка,
- страляць з лодкі праз весляроў ці іншых паляўнічых у лодцы,
- дабіваць прыкладам параненую жывёліну.

Паляўнічая зброя павінна быць разраджанай пры пераездзе ў іншы загон, перад пасадкай у транспарт.

Кожны стралок, які стаіць на нумары, павінны дакладна ведаць размяшчэнне суседніх нумароў і ўсёй стралковай лініі.

**Паляўнічы можа страляць толькі тады, калі ўпэўніцца, што ў накірунку выстралу няма людзей ці свойскіх жывёл.**

На загонныя паляванні зараджаць зброю можна толькі на нумары. Разрадзіць трэба перад выхадам з нумара.

**Пры правядзенні загоннага палявання забараняецца:**

- праводзіць яго ў змроку, тумане, у моцны снегапад, ва ўмовах кепскай бачнасці,
- мяняцца нумарамі, самому выбіраць месцы і сыходзіць з нумара да заканчэння загона, акрамя выпадкаў, калі павінны дапамагчы чалавеку, які трапіў у бяду,
- прымяняць самазарадную зброю з ёмістасцю магазіна больш чым на пяць патронаў,
- страляць па жывёлах уздоўж стралковай лініі, за межамі свайго сектара, пасля сігналу аб заканчэнні загона.

Выстралам уздоўж стралковай лініі лічыцца выстрал пад такім вуглом да яе, калі снарад ці частка снарада праляцяць на адлегласці бліжэй за 15 метраў ад суседняга нумара.

Нельга карыстацца зброяй п'яным ці ў стане ўздзеяння наркатычных, таксічных, псіхатропных сродкаў. Нельга браць ружжо пад уздзеяннем лекаў, якія зніжаюць увагу і рэакцыю, стомленым ці хворым.

**Кірыл ЧАБАН, намеснік начальніка Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**



Фота забяспечана Паўлам САМАЛЕМ.

Трапілі ў фотапастку на тэрыторыі Маладзечанскага лясгаса, калі прыехалі выкідаць смецце.

● ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА

# Цяпер у лесе можна трапіць у фотапастку

МАЛАДЗЕЧНА

**Сістэма відэаназірання, якая працуе ў Маладзечанскім лясгасе ад восені, у першую чаргу скіраваная на тое, каб людзі перасталі выкідаць смецце ў неналежных месцах.**

– На тэрыторыі Маладзечанскага лясгаса ўсталявалі чатыры фотапасткі, – распавёў інжынер па ахове лесу **Павел Самаль**. – Усе яны дзейнічаюць. Мы збіраем і правяраем інфармацыю кожныя два дні. Вынік ёсць і, мяркую, будзе яшчэ лепшы. Паказваеш чалавеку здымак, і яму няма куды хавацца. Ён ужо не можа сказаць, што гэта не яго смецце, а хлопца, які хвіліну таму праязджаў міма на ровары.

Спецыяліст лічыць, што таксама дапамагаюць шыльды "Працуе відэафіксацыя", якія нагадваюць, што можна трапіць у аб'ектыў.

Ставяць фотапасткі ў месцах, дзе найчасцей ходзяць людзі і часцей з'яўляецца смецце. Павышаная цікавасць да месцаў адпачынку. Хоць там і ёсць куды выкідаць смецце, людзі ўсё адно пакідаюць яго пасля сябе.

– Месцы, куды ставім камеры, увесь час мяняем, – заўважае Павел Самаль. – Дзе заўгодна можна апынуцца пад камерай.

Некалькі чалавек ужо прыцягнулі да адказнасці. За парушэнне пагражае ад папярэджання да 20 базавых велічынь.

У Мінскай вобласці такая практыка з'явілася спачатку ў Валожынскім лясгасе. Там відэа зафіксавала бабулю, якая выкідвала смецце ў кар'ер.

– Як пачалі працаваць з камерамі, спачатку вывучалі сістэму. Эксперыментавалі з наладкамі, высвятлялі, якія лепш выкарыстоўваць у рознае надвор'е. Сістэма прыносіць плён, аднак яшчэ ранавата казаць, што яна працуе на сто адсоткаў, – кажа спецыяліст.

Ён таксама просіць усіх жыхароў адказна ставіцца да выкідвання смецця.

**Настасся РОЎДА.**

● МЕРАПРЫЕМСТВЫ

# Рарытэтныя аўтамабілі прыехалі ў Заброддзе

ВІЛЕЙКА

**Па дарогах Вілейшчыны 10 кастрычніка ехалі рэтрааўтамабілі. Гэта з Мінска накіроўваліся ў вёску Заброддзе ўдзельнікі клуба "АўтаАмерыка".**

Па дарозе яны ўсклалі кветкі да помніка экіпажам Гастэлы і Маслава і на мемарыяльных могілках Першай сусветнай у Заброддзі.

У мемарыяльна-этнаграфічным комплексе клуб закрываў сезон. Тут яго ўдзельнікі адпачывалі на сядзібе "Заброддзе", знаёміліся з музеямі Першай сусветнай вайны і быту, з прыватнай экспазіцыяй рэтратэхнікі **Данілы Цітовіча**.

Прыехалі 10 аўтамабіляў.

– Самыя цікавыя сярод іх гэта "Плімут Ф'юры" 1972 года выпуску, "Шаўрале МонтэКарла" 1975 года выпуску, "Меркуры Колані Парк", – расказвае старшыня грамадскага аб'яднання "АўтаАмерыка" **Аляксандр Шурын**. – Самая дарагая машына тут каштуе 50 тысяч долараў. Дарэчы, наш клуб штогод у маі праводзіць міжнародны фестываль "Рэтра-Мінск".

Рэтрамашыны заўсёды цікавыя людзям, сцвярджае Аляксандр Шурын:

– Вось і цяпер, як ехалі, многія махалі нам рукамі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота forum.autoamerika.by

Рарытэтныя аўтамабілі ў Заброддзі.

● КНІГІ

## Аксана Ярашонак удзельнічала ў Міжнародным літаратурным фестывалі

ВІЛЕЙКА

Паэтэса з Ільі **Аксана Ярашонак** на мінулым тыдні вярнулася з Міжнароднага літаратурнага фестывалю, які праходзіў у Растоўскай вобласці.

Фестываль "Берагі дружбы" ладзяць ад 2013 года.

Паэты, якія ў ім удзельнічаюць, перакладаюць вершы рускіх калег на беларускую мову. У апошнім зборніку "Атожылкі славянскага камля" вершы беларускіх паэтаў пераклалі на рускую (**Ганна Вартаньяна**) і ўкраінскую (**Вольга Сафронава**) мовы.

Арганізатарам і натхняльнікам фестывалю стаў паэт **Леанід Север**. Ён нарадзіўся ў Таганрогу, але ў дзяцінстве і юнацтве жыў у Гомелі.

– Паколькі з Беларусі я была адна, разумела, што толькі ад мяне залежыць, наколькі часта гледачы і калегі будуць чуць беларускую мову і што падумаюць пра беларускую літаратуру, – каментуе паэтэса.

Праграма фестывалю заняла тры дні, 25-28 верасня. Паэты выступалі ў школах раёна. Аксана Ярашонак выступала разам з **Леанідам Северам**.

Для гасцей зладзілі экскурсію ў летнюю школу Няклінаўскага раёна, выступленне ў парку імя Чэхава. Паэты прэзентавалі сваю перакладчыцкую дзейнасць у Растоўскім Доме журналіста.

**Аддзел інфармацыі.**

● АКЦЫІ

## Краязнаўцы і "РГ" ладзяць талаку

ВІЛЕЙКА

У суботу, 17 кастрычніка, адбудзецца сумесная акцыя "РГ" і вілейкай суполкі Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

Талака адбудзецца ў Вілейцы на старых каталіцкіх могілках, якія называюць "Гарадзішча".

Ахвотныя далучыцца да дабрачыннай акцыі па добраўпарадкаванні культавага месца збяруцца а 10-й гадзіне.

Дадатковыя звесткі можна атрымаць ад каардынатара акцыі **Дзяніса Канецкага** па нумары: (8-029) 873-72-95.

**Аддзел інфармацыі.**

● НАВІНЫ

## Пройдзе рэгіянальны сельскагаспадарчы кірмаш

ВІЛЕЙКА

Адбудзецца ён 17 кастрычніка на цэнтральнай плошчы Вілейкі. Пачатак – у 9 гадзін, расказала загадчыца сектара гандлю аддзела эканомікі райвыканкама **Аксана Сопрых**.

У кірмашы будуць удзельнічаць арганізацыі і прадпрыемствы з пяці раёнаў: Вілейскага, Валожынскага, Лагойскага, Мядзельскага і Маладзечанскага.

Прадставяць шырокі асартымент сельскагаспадарчай прадукцыі, мясныя, кулінарныя і кандытарскія вырабы, насенне і іншае. Таксама прывязуць прамысловыя тавары і вырабы народных майстроў.

## Валанцёры наводзілі парадак на вайсковых пахаваннях

МЯДЗЕЛ

Ад 28 верасня да 7 кастрычніка на Мядзельшчыне працаваў валанцёрскі міжнародны лагер. Праводзіўся ён па ініцыятыве "Народнага саюза Германіі па доглядзе за вайсковымі пахаваннямі".

Сярод валанцёраў былі пераважна студэнты. Прыехалі яны з Беларусі, Расіі, Латвіі і Германіі.

Валанцёры наводзілі парадак на вайсковых пахаваннях Першай сусветнай вайны ў розных кутках Мядзельшчыны. Працавалі як на пахаваннях нямецкіх салдат, так і рускіх.

## Назіралі за птушкамі

МЯДЗЕЛ

Мядзяльчане ўдзельнічалі ў восеньскіх днях назіранняў за птушкамі EuroBirdWatch2015. Праходзілі яны 3 і 4 кастрычніка.

– У райцэнтры наладзілі экскурсію для вучняў, працавала назіральная пляцоўка ля возера Мястра, – расказала старшыня раённага аддзялення грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны" **Алена Паршута**. – Пра свае назіранні таксама паведамлялі са школ раёна.

За два дні ў раёне прынялі ўдзел у назіраннях за 120 чалавек. Усяго ўбачылі 17 відаў птушак. Найчасцей – гракоў, азёрных чаек, палявых вераб'ёў.

Беларусь сёлета заняла трэцяе месца сярод краін Еўропы і Цэнтральнай Азіі па колькасці людзей, якія ўдзельнічалі ў назіраннях.

**Аддзел інфармацыі.**

ІМПРЭЗЫ

## Балады Віктара Шніпа ў аб'ектыве Міколы Лінніка

ВАЛОЖЫН

**Фотавыстава Міколы Лінніка па матывах баладаў Віктара Шніпа адкрылася у Мінскай бібліятэцы імя Цёткі ў аўторак, 6 кастрычніка.**

Мікола Ліннік зрабіў фотаздымкі магіл герояў твораў Віктара Шніпа з цыкла "Балады беларускага шляху".

У экспазіцыю выставы ўвайшлі фотаздымкі да 28 баладаў Віктара Шніпа.

На пытанне, чаму такая лічба, Мікола Ліннік адказаў:

– Лічба выбраная выпадкова, гэта было абумоўлена памерамі памяшкання, дзе выстаўляюцца працы. У Віктара Анатольевіча напісана 280 баладаў, таму роўна дзясятая частка ўвайшла ў выставу. Можа, у гэтым сімвал?

Калі стала пытанне, якім чынам адабраць фотаздымкі і балады, Мікола Міхайлавіч вырашыў, што героі баладаў павінны мець дачыненне да Валожыншчыны, месца, дзе нарадзіўся сам фотамастак, а таксама паэт Віктар Шніп, або да бліжэйшых раёнаў.

Так гледачы выставы пабачылі месца пахавання **Уладзіслава Чарняўскага**, **Тамаша Зана**, **Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча**, **Фердынанда Рушчыца**.

– Фотаздымкі да гэтай выставы рабіліся мной цягам трох гадоў, – кажа Мікола Ліннік. – І я мяркую, што працяг выставы будзе. І ў Віктара Шніпа шмат герояў, і мне цяпер дапамагае малады фатограф **Васіль Кузьмічкін**.

**– Ці ёсць сярод вашых работ самыя дарагія сэрцу?**

– Мне б не хацелася рабіць пантэон з маіх работ. Усе яны прайшлі праз сэрца. Самая старая, з прадстаўленых на выставе, датуецца вераснем 2012 года. Гэта памятны знак на месцы бітвы ля Сіняй вады. Апошні фотаздымак зроблены сёлета 13 верасня. Гэта магіла Тамаша Зана ў Аршанскім раёне. Больш часу затраціў на фотаздымак помніка Якубу Коласу ў Мінску. Разоў восем да яго хадзіў. Сфатаграфаваў так, што не ўсе пазнаюць, што гэта за помнік.

Цікава яшчэ тое, што да адкрыцця выставы сам Віктар Шніп пра яе не ведаў.

– Калі мае калегі-мастакі пабачылі выставу, адразу падсумавалі – Шніп ад такога ачмурэе. Я ж лічу, што балады Віктара Анатольевіча даўно пара ўводзіць у школьную праграму. Колькі славутых імёнаў Беларусі паўстае ў іх радках!

**Біяграфічная даведка: Мікола Ліннік.** Нарадзіўся 3 сакавіка 1954 года ў вёсцы Порычы на Валожыншчыне. Скончыў радыётэхнічны інстытут у Мінску. Усё жыццё працуе па прафесіі – радыёінжынерам.
**Віктар Шніп.** Нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў вёсцы Пугачы на Валожыншчыне. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум (1978). Сем гадоў быў беспрацоўным. Выдаў 17 паэтычных зборнікаў і дзве кнігі для дзяцей. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**Наталля ТУР.**
**Фота глядзіце на сайце**




**На пярэднім плане Сяргей Карзей у ролі Князя, за ім Аляксей Карпец у ролі Мазглякова. Больш фота глядзіце на сайце rh.by.**

ТЭАТР

# Каб пачаць жыць, трэба прачнуцца

## 25 сезон Мінскага абласнога драматычнага тэатра адкрыла прэм'ера "Дзядзечкаў сон"

МАЛАДЗЕЧНА

**Другі склад акцёраў упершыню прадэманстраваў гледачу маладзечанскае прачытанне аповесці Дастаеўскага ў аўторак, 13 кастрычніка.**

"Дзядзечкаў сон" – чацверты сумесны рускамоўны праект маладзечанскага тэатра і вядомага рэжысёра **Віталя Баркоўскага**. Ён жыве і працуе ў Расіі, але прыязджае на радзіму, каб рабіць новыя пастаноўкі ў Маладзечне. У яго скарбонцы як галоўнага рэжысёра Смаленскага драмтэатра ёсць спектаклі паводле твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Алеся Дударава.

Фёдар Дастаеўскі напісаў "Дзядзечкаў сон" пасля катаргі, з жанрам канчаткова так і не вызначыўся. Маладзечанскае прачытанне інтэрпрэтуе гісторыю як камедыю нораваў. Камічнасць сітуацыі, якая лягла ў аснову сюжэта, толькі знешняя. Князь К. прыязджае ў правінцыйны гарадок, бязлітасны вышэйшы свет якога жыве плёткамі і пошукам выгады. Свецкая дама Мар'я Маскалёва распрацоўвае план, як выдаць за князя дачку Зіну. Яна дамагаецца прапановы, але ў гэтай гульні прайграюць усе.

**У настроі п'есы ёсць дынамічныя і нават гумарыстычныя эпізоды, але асноўны акцэнт скіраваны на драму герояў: сярод іх шчаслівых няма.**

Гэта падкрэслівае журботная музыка, якая дамінуе ў мелодыі спектакля. Героі могуць ўявіць шчасце, але толькі не ў гэтым месцы і не ў гэты час. Тут і цяпер іх займае іншае. Як прыняць лёсавызначальнае рашэнне, калі правільнага выбару няма? Ці аддаваць дачку-прыгажуню замуж за перастарэлага князя? І як у гэтым апярэдзіць прадпрымальную суседку? Як балюча ўкалоць знаёмых, пакуль не ўкалолі цябе?

Героі не кіруюць сваім шчасцем, але актыўна ўмешваюцца ў шчасце іншых. Ці пазбаўляюць яго, ці навязваюць іншым тое, што лічаць правільным. Нават князь, распрастаўшы рукі і адкрыўшы, што "толькі цяпер пачаў жыць", лёгка здаецца ўгаворам, нібыта яго шчасце – толькі сон.

Міміка **Сяргея Карзея** ў ролі Князя непаўторна перадае забыўлівага нязграбнага дзядка, які падкрэслівае сваю няўпэўненасць рэфрэнам "Ну, так". Мар'я Маскалёва ў выкананні **Тацяны Карпец** атрымалася адначасова драпежнай свецкай дамай і любячай маці. Увесь акцёрскі склад на традыцыйна высокім узроўні. Актрысы, якія ігралі ролю свецкіх дам, па ўключанасці ў гульню раўназначныя галоўным героям. Рашэнне размясціць іх паміж сцэнай і крэсламі максімальна наблізіла акцёраў да гледачоў. Яно стварае эфект, нібыта гледачы – частка фінальнага разбору ўзаемаадносін.

Дэбют на маладзечанскай сцэне адыграла актрыса **Алена Сіротава**, якая пераехала з Луганскай вобласці. Зіна ў яе выкананні атрымалася сумнай і стомленай, якая з агідай глядзіць на местачковую мітусню, але ад бяссілля штосьці змяніць толькі плача.

Ідэю сну, пазбавіцца ад якога не стае сілы, падтрымлівае афармленне і пластыка спектакля. Героі стаяць на каленях, падаюць, ляжаць і нават качаюцца па сцэне. Дэкарацыі і касцюмы вытрыманы ў вельмі спакойных, пераважна белых колерах, асабліва у вобразах галоўных герояў. Асвятленне нагадвае свяятло таршэра ці бра. Агулам гэта стварае атмасферу дрымоты.

У вобразах акцёраў грым і касцюмы адпаведныя, аксесуары прадуманыя. Пры высокім агульным узроўні спектакля выбіваецца толькі недапрацоўка з прычоскамі. У першым акце ў Зіны яна выглядала нехайнай, а для Мар'і Аляксандраўны варта падабраць штучныя валасы, якія будуць менш адрозніваца ад сваіх.

Тэатр толькі распачаў 25-ы сезон яркай палітрай эмоцый у прэм'еры. Гледачоў чакае шмат сустрэч, падчас якіх акцёры пакажуць складанасці чалавечай натуры, аднасінаў і разумення сябе. Каб гэта ацаніць, трэба прачнуцца падчас прагляду прэм'еры "Дзядзечкаў сон".

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Сачыце за тэатральным жыццём у наступных нумарах "РГ".**

ТВОРЧАСЦЬ

## Фотавыстава Міхаіла Крыжаноўскага цяпер у Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

**Урачыстае адкрыццё адбылося ў аўторак, 6 кастрычніка, у Мінскім абласным драматычным тэатры.**

Фотамастак прымяркоўвае выставу да 250-годдзя **Міхала Клеафаса Агінскага**. Яго работы прысвечаныя спадчыне нашага земляка і яе ўшанаванню. У ёй ёсць краявіды, партрэты, здымкі з культурных імпрэзаў.

Работы можна ўбачыць у фае тэатра ад 12 да 18 гадзін у рабочыя дні. Яна працуе да 24 кастрычніка.

Міхаіл Крыжаноўскі ўжо дэманстраваў выставу ў Мінску, Залессі і Вілейцы.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі-100 С-4, 1992 г.в, 2,3 бензін, добры стан. Т. Вэлком (8-029) 3056139.*

• Аўдзі-80, 1991 г.в., 1,8 мона, гідраўзмацняльнік, люк, добры стан. Т. МТС (8-029) 2614821.*

• ВАЗ-2101. Маладзечна. Т. (8-029) 8609760.

• Мазда-628, аб'ём 1,8, расход 8 л, 5КПП, ц/з, страхоўка, ТА, добры стан. Цана дагаворная. Т. Вэлком (8-029) 6467681.

• Мікрааўтобус Мерседэс-Спрынтар, 2014 г.в. Т. (8-029) 5768868.*

• Міцубісі-Харызма, 1995 г.в., 1,6Б, зялёны. Т. (8-029) 6865329, (8-0176) 741879.*

• Нісан-Альмера, хэтчбэк, 2002 г.в., 1,5 бензін, выдатны стан. Т. (8-029) 3913937.*

• Нісан-Прэм'ера, 1997 г.в., 1,6 бензін, эл. пакет, сіні, добры стан, 45 000 000 руб, торг. Маладзечна. Т. (8-029) 7661292.

• Пежо-307, 2002 г.в., 2,0 НДІ. Т. (8-029) 1760682.*

• Рэно-Вэлсаціс, 2003 г.в., 2,2ТД, колер хамелеон, 75 000 000 руб. Т. (8-029) 6310734.

• Сеат-Ібіца, 1996 г.в., у добрым стане. Т. (8-029) 2602492, (8-01771) 68401.

• Сітраэн-Ксантыя, 1998 г.в., 1,9 турбадызель, бардовы. Т. (8-044) 7631059.*

• Сітраэн-Ксантыя, 1999 г.в., 1,9ТДІ. Т. (8-029) 9161792.*

• Сузукі вагон R+, 2001 г.в., бензін, у выдатным стане, камплект зімовай гумы ў падарунак. Цана 56 400 000 руб. Т. (8-029) 9382951.*

• ФВ Т-2, пасажырскі, 1989 г.в., 1,6 дызель. Т. (8-029) 8609061.

• ФВ-Гольф, 1993 г.в., 1,9ТД, 5-дзверны. Т. Вэлком (8-029) 3430846, МТС (8-029) 8550736.

• ФВ-Шаран, 1998 г.в., 1,9ТДІ, ці абмен на меншую. Т. (8-029) 5010538.

• ФВ-Шаран, 2009 г.в., дызель, цана адпавядае якасці. Т. (8-029) 6256499, (8-033) 6020264.*

• Форд-Мандэа, 1993 г.в., 1,8 дызель, 27 000 000 руб. Т. МТС (8-029) 7603106, Вэлком (8-029) 3342159.*

• Форд-Эскорт, 1991 г. в, добры стан, зняты з уліку для продажу, танна. Т. (8-029) 6313837, МТС (8-033) 6388332.

• Хонда-Фіт, 2009 г.в, серабрысты металік. Т. (8-029) 8527882.

• Хёндэ-Акцэнт (Hyundai), 1997 г.в, 1,3Б, хэтчбэк, тэрмінова, торг. Т. (8-029) 2319181.

• З/часткі да БМВ-325, 1997 г.в. Т. (8-044) 7387127.*

• З/часткі да Мерседэса 190, 1987 г.в., 2,0Д. Т. (8-029) 7792477.*

• З/часткі да Опель-Кадэт, 1986 г.в., 1,6Д. Т. (8-033) 355613.*

• З/часткі да Рэно-Трафік, 1997 г.в., 2,1Д. Т. (8-029) 7071974.*

• З/часткі да Форд-Эскорт, 1994 г.в., 1,8Д. Т. (8-044) 7387127.*

• **ЗАПЧАСТКІ Б/У ДА А/М:** Сітраэн-Ксара, Джампер, Пікаса, Эвазьён, С3, С5, С8; Опель-Астра, Вектра, Зафіра, Амега-В; Пежо-206, 306, 307, 406, 407, 607, 806, 807, Боксер, Эксперт; Фіят-Уліс, Скунда, Пунта, Дуката; Форд-Транзіт; Таёта-Пікнік, Авенсіс, Авенсіс-Верса; Фольксваген-Цыгуан, Транспарцёр, Т4, Каравела, Крафтар, Пасат-В5, LT28; Рэно-Меган, Сцэнік, Эспэйс, Лагуна-2, Максіці, Маскот, Кангу; Міцубісі-Паджэра-3; Мерседэс-207-410, Віта, Спрынтар; Лянча-Зета, Кіа-Карневал; СААБ 9-5; Нісан-Альмера-Ціна, Кабстар; Івека-Турба-Дэйлі 35.10-59.12 ТАА "МолАўтаСтоп" УНП 690617006. Т. (8-029) 7721520, (8-029) 6015258.*

• Запчасткі б/у да Форда-Сіеры. Т. (8-029) 6578681.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак і іншых частак кузава. а таксама глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Шыны Continental 205х60 R16,С пратэктар 6-7 мм, на ўсе сезоны, 1 200 000 руб. Т. МТС (8-033) 6326516.

• Шыны зімовыя Cordiant R16 новыя 4 шт., 2 800 000 руб. Т. (8-029) 3170988.*

### КУПЛЮ

• **АЎТАМАБІЛЬ У ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• Мікрааўтобус у любым стане для сябе. Т. (8-025) 6512343, (8-029) 1989647.

### ПАСЛУГІ

• **ПАСЛУГІ МІНІ-ЭКСКАВАТАРА ПАД УСЕ ВІДЫ ЗЕМЛЯНЫХ РАБОТ.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868.*

• **АРЭНДА ФРАНТАЛЬНАГА ПАГРУЗЧЫКА** ТО-18Б, катлаваны, пагрузка, планіроўка. ІП Каўпак О.Т. УНП 691500412. Т. (8-044) 7645096.*

• Арэнда **ФРАНТАЛЬНАГА ПАГРУЗЧЫКА** АМКАДОР (коўш 2 куб. м), **ЭКСКАВАТАРЫ-ПАГРУЗЧЫКІ** JCB4CX і Беларус 92П (планіроўка, падрыхтоўка ўчастка, катлаваны, траншэі, мантаж каподзежаў, пагрузка смецця), **САМАЗВАЛЫ** 10-, 20-, 30- і 40-тонныя (**БЕТОН**, пясок, гравій, шчэбень, **ПРЫРОДНЫ КАМЕНЬ**, вываз смецця, **ЗНОС БУДЫНКАЎ**), **АЎТАБЕТОНАЗМЯШАЛЬНІК** 6 куб. м, **ГІДРАМАНІПУЛЯТАР** з прычэпам 22 тоны (16 паддонаў). ТАА "Матэк Про". УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*

• Арэнда экскаватара-пагрузчыка. Усе віды земляных работ. ІП Грычанаў Д.Г. УНП 691882365. Т. (8-029) 5045554.*

• Міні-экскаватар: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Паслугі міні-пагрузчыка, міні-экскаватара, колавага экскаватара, каўшы пад усе віды работ, трамбовачныя машыны. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9098949.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул. Незалежнасці, 5/5 панэль, агул. плошча 58/30,2 кв. м, с/в раздзельны, лічыльнікі вады, тэлефон, патрэбны рамонт, 550 000 000 руб, торг.Т. (8-033) 3297613.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 8745490, (8-033) 6380006.

• 2-пакаёвая кватэра ў прыгарадзе Мінска. Т. (8-033) 6240806, (8-029) 1357316.

• 2-пакаёвая кватэра, гараж у Вілейцы. Т. (8-029) 7078401.*

• 3-пакаёвая кватэра ў а/г Любань, 1/3, шклопакеты, металічныя дзверы, бойлер, балкон, гараж, склеп, агарод. Траса Нарач-Мінск. Т. (8-033) 6362026. Пасля 18.00.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, цэнтр горада, 2 паверх. Т. (8-01771) 38223, (8-033) 6041497, (8-029) 7125425.

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Нядорага. Т. (8-029) 2694696.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Замкавай, 1 паверх. Т. (8-029) 6888111.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па Вялікім Гасцінцы, д,119, 1980 г, дом цагляны, 64,4 кв. м. Т. (8-029) 6411879.*

• 4-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, р-н Незалежнасці, 4/5 цаглянага дома, 2000 г, 87/54/12. Т. (8-029) 5010308, (8-029) 9328149.

• 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, 80 кв. м, 2/5. Т. (8-029) 6860723, (8-01592) 30124.*

• Гараж у Вілейцы ў ГБК-6 каля АЗС. Т. (8-029) 1331698, (8-0290 5559694.

• Гараж у ГБК-2, 5х6, яма. Т. (8-029) 8527882.

• Гараж у ГК-32 (Фестывальны), высокі; гараж у ГК (ускраіна), нядорага. Т. (8-029) 7070885.*

• Гараж у ГК-5 (Лясныя), Маладзечна, 38 000 000 руб. Т. (8-0176) 775469, (8-029) 7612071.

• Гараж у ГК №29 у Маладзечне. Т. (8-029) 5028269.*

• Гараж у Маладзечне, вул. Міру, каап. №13. Т. (8-029) 1468044.*

• Дачны ўчастак з блочным домікам у в. Маркоўцы, 8 км ад Смаргоні, водаправод. Т. (8-01592) 45629,(8-033) 3215884.

• Дом жылы ў в. Лылойці Смаргонскага р-на. Тэрмінова. Ёсць гаспадарчыя пабудовы, сад. Цана дагаворная. Т. (8-029) 9890523.*

• Дом з выгодамі ў Вілейцы. Т. (8-01771) 53739.

• Дом у в. Бязводнае Вілейскага р-на Ільянскага с/с, 7х9, ацяпленне пячное (кафель), паравое водазабеспячэнне ў доме, на вуліцы – калонка. Ёсць тэлефон і інтэрнэт. Участок 0,25 га. На ўчастку: лазня, бетаніраваны склеп, гараж і іншыя сельгасбудаўнічыя пабудовы. Усе дакументы аформленыя. Ад трасы Мінск-Мядзел – 500 м, да Вілейскага вадасховішча – 5 км. Т. (8-029) 7567653 Людміла Мікалаеўна.*

• Дом у в. Палачаны, нядорага. Т. МТС (8-033) 36180717, Вэлком (8-044) 7750241.*

• Дом у в. Івашкоўцы Смаргонскага р-на. Т. (8-029) 6075648.*

• Дом у Вілейцы плошчай 90 кв.м, 15 сотак, вялікі гараж, хлеў, склеп, сад. Еўрарамонт, ацяпленне, газ, водаправод. Т. (8-029) 5581494.*

### КУПЛЮ

• Дом. Т. (8-029) 3780215.*

### ЗДАМ

• 2-пакаёвую кватэру ў Смаргоні. Т. (8-029) 6080883, (8-029) 6353589.*

• Жадаеш развіць сваю справу. Недарагія памяшканні з рамонтам ад 5 да 105 кв. м каля рынку па вул. Заазёрнай у Мядзеле. Першы месяц без арэнднай платы. Заязджай і працуй. Падрабязней: (8-029) 7778488. ІП Ржачыцкі І.Л. УНП 600163683.



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Відэаздымка вяселляў, банкетаў і інш. урачыстасцяў. Падарыце сабе фільм, які будзе цікава глядзець доўгія гады! ІП Сысоеў А.А., УНП 691892382. Т. (8-029) 5063428.*

• Вяселлі. Юбілеі. Карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж. Усю восень скідка 30% на вытворчасць вясельных фільмаў. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. (8-029) 8745891.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Грузаперавозкі да 4 т, тэнтаваны, дубль кабіна, 6 (шэсць) пасажыраў. ІП Шалуха С.Ф. УНП 690021247. Т. Вэлком (8-029) 3833307.*

• Івека – фургон да 3 тон, даўжыня 3,7 м, санпашпарт, санкніжка. ІП Радзілавец В.А. УНП 691393672. Т. МТС (8-029) 7038367.*

• Мерседэс 412, 2,5 т, паслугі грузчыка. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерседэс, 3,5 т, 20 куб. м, санпашпарт, санкніжка, хутка, нядорага. ІП Шыкін А.У. УНП 691507751. Т. (8-029) 8605068.*

• Рэно 20 т, 13,6 м, адкрыты, бартавы, нядорага. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

• Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (балансе), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• **АРГОНАВАЯ ЗВАРКА, ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш. **АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ланцугоў, рамонт падвескі. **ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*

• Будаўніцтва і рамонт індывідуальных жылых дамоў. ФХ "Лемешаў Н.В." УНП 691169396. Т. (8-044) 7800660.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Янцэвіч А.Р. УНП 590945450. Т. (8-029) 1287878.*

• Будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў: дах, аддзелка любой складанасці, падмурак, кладка і інш. ПП "АлексДом" УНП 690550072. Т. (8-0176) 745851, (8-029) 7768262, (8-029) 3667001.*

• **ВЫКАНАЕМ ВЫРАБЫ З МАСТАЦКАЙ КОЎКАЙ. ВАРОТЫ, БРАМКІ, ПОРУЧНІ, КАЗЫРКІ, АГАРОДЖЫ І Г. Д. ІП ВАРАНОВІЧ А.М. УНП 6911775298 Т. МТС (8-029) 2728695, МТС (8-029) 5355470.***

• Выраб і ўстаноўка міжпавярховых лесвіц з дрэва і жалезабетону. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Вырабы з металу: дзверы ўваходныя (вонкавыя, ліст 2 мм); вароты гаражныя, уязныя і адкатныя, брамкі, агароджы; навесы, казыркі, альтанкі; агароджы, лаўкі і столік для абуладкавання магілак; рашоткі на вокны; сцелажы зварныя і разборныя; скрыні газавыя; урны, кантэйнеры для ТБА, у тым ліку аўтамабільныя (12/17 куб. м); катлы і ёмістасці і інш. па эскізах заказчыка; шафы для адзення, апоры асвятлення; прыпыначныя пункты; электрашчыты і камплектацыя для падключэння прыватных дамоў; **НАВЯСНОЕ АБСТАЛЯВАННЕ І ПРЫЧЭПЫ ДЛЯ МОТАБЛОКАЎ**. Замеры, дастаўка, устаноўка. **АКАЗВАЕМ ПАСЛУГІ ПА ПАЛІМЕРНАЙ АФАРБОЎЦЫ МЕТАЛАВЫРАБАЎ І ПЛАЗМЕННАЙ РЭЗЦЫ**. **НАЯЎНЫ І БЕЗНАЯЎНЫ РАЗЛІК**. ТАА "Механічны завод" УНП 600542830. Т. (8-029) 5040423, (8-0176) 746060 (пн-пт з 8-00 да 17-00).*

• Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блокхаўс, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архіваназнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапамога напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

**Тэлефонныя коды**

| | гарадоў рэгіёну: |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

ГІСТОРЫЯ

# Міхал Клеафас Агінскі як афіцэр арміі,

## які ледзь не загінуў у паходзе на Валожыншчыну

*Заканчэнне. Пачатак у №№40, 41.*

ВАЛОЖЫН

**Споўнілася 250 год з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага. Усе мы яго ведаем як выдатнага кампазітара, палітыка, дыпламата і сенатара. Але мы амаль не ведаем яго як аднаго з самых выдатных афіцэраў арміі Тадэвуша Касцюшкі.**

Я распавяду пра яго як пра камандзіра аднаго з самых баяздольных палкоў польскай арміі канца 18-га стагоддзя. А менавіта пра паход на Валожыншчыну.

### Дарогі

Мелі многа цяжкасцяў у тым, каб знайсці папярэднюю дарогу, якая б прывяла нас да стану нашай арміі. Вырваўшыся з кляшчоў корпусу Кнорынга, былі занепакоеныя некалькі гадзін праз моцныя патрулі корпусу Цыцыянава. Урэшце, пры наступленні ночы, нам удалося злучыцца з авангардам нашай арміі ў Крэве.

Ранкам наступнага дня адбыў у галоўную кватэру, якая, як і раней, была ў Ашмяне. Генерал Ясінскі, мужныя афіцэры яго арміі, якія ўжо не спадзяваліся мяне убачыць, прынялі па-сяброўску, дакаралі за маю смеласць і стараліся падтрымаць з прычыны маіх паражэнняў, якія я панёс.

Праз 24 гадзіны сустрэў маіх стральцоў, яны вараталіся, але былі ў парадку, нягледзячы на цяжкасці, перанесеныя ў лясах і на непраходных дарогах.

Потым неадкладна выехаў у Вільню, дзе быў прыязна прыняты. Гэта дало мне выснову да дум ак аб новых рызыкоўных справах".

Пасля паходу на Валожыншчыну зрабіў рэйд да Дынабурга, дзе змагаўся супраць прускіх войскаў.

Пасля таго, як рускія войскі занялі Вільню, праз Галіцыю выехаў у Аўстрыю. За удзел у паўстанні расейскія ўлады канфіскавалі ягоныя маёнткі.

### План аднаўлення ВКЛ

У эміграцыі ён жыў у Вене, Венецыі, Парыжы, Стамбуле. Пасля ўступлення на Расійскі прастол Аляксандра I атрымаў магчымасць вярнуцца на радзіму і працягнуць грамадска-палітычную і культурніцкую дзейнасць. Пасля прысягі на вернасць імператару яму вярнулі ранейшыя маёнткі.

У 1810 годзе атрымаў пасаду сенатара і чын тайнага саветніка, ордэны св. Уладзіміра і Аляксандра Неўскага. Неаднойчы сустракаўся з імператарам Аляксандрам у Пецярбургу, Вільні, Магілёве і Віцебску, распрацаваў і падаў яму план аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага ў складзе Расійскай імперыі, якое мусіла б аб'ядноўваць восем губерняў. Але імператар адхіліў праект.

У чэрвені 1812 года Міхал Клеафас з'ехаў на ўсход разам з расейскімі войскамі, жыў у Пецярбургу. Пасля вайны вярнуўся ў Залессе, дзе заставаўся да 1822 года, пакрысе адыходзячы ад спраў. У 1823-м разам з сям'ёй выехаў у Італію, дзе жыў у Фларэнцыі. Там ён і памёр 15 кастрычніка 1833 года. Пахаваны ў пантэоне Санта Крочэ.

**Ігар СОЛТАН,**
**бібліятэкар Івянецкай бібліятэкі.**




Фота globus.tut.by

**Надмагілле Міхала Клеафаса Агінскага ў базіліцы Санта Крочэ ў цэнтры Фларэнцыі, адной з самых вядомых адметнасцяў горада. У ёй пахаваны Міхал Клеафас Агінскі, Мікеланджала Буанароцці, Мікола Макіявелі, Галілеа Галілей і іншыя сусветна вядомыя асобы.**

ПАМЯЦЬ

# Як забраць рэчы продкаў, што ваявалі ў арміі Андэрса

*Заканчэнне. Пачатак у №№15, 22, 37.*

**Рэчы многіх жаўнераў арміі Андэрса месцяцца ў Цэнтральным вайсковым архіве ў Варшаве. Нашчадкі могуць забраць памятныя рэчы, калі пацвердзяць сваяцтва.**

Маладзечанец **Віктар Голуб** падрыхтаваў спіс тых, хто паходзіў з нашага краю са спадзяваннем, што хтосьці з нашчадкаў захоча вярнуць дарагія сям'і рэчы.

Усяго ў спісе 1630 жаўнераў. З іх многія паходзяць з Беларусі, Украіны і Расіі.

У 2005 годзе англійскі ўрад перадаў асабістыя рэчы загінулых у Цэнтральны вайсковы архіў у Варшаве.

Архіў месціцца ў раёне Стары Рэмбратаў, па адрасе: ul. Czerwonych Beretów bl. 124, 00-910 WARSZAWA, Centralne Archiwum Wojskowe. Адказны па гэтай тэме – Ежы Сівінські. Там жа можна знайсці поўны спіс, паводле якога зрабіў выбарку Віктар Голуб – Lista nazwich żołnierzy i oficerow, ktorych depozyty sa przechowywane w CAW.

Пры звароце трэба мець даведку аб ступені сваяцтва з жаўнерам, якую заверыў натарыус. Даведку неабходна перакласці на польскую мову.

Многія з іх узнагароджаныя крыжом "За Монтэ Касіна", сустракаецца нават самая ганаровая польская ўзнагарода – ордэн Virtuti Militari. У спісе некаторых звестак, напрыклад, пра год нараджэння, няма, могуць быць недакладнасці ў перадачы імя, прозвішча ці населенага пункта.

### Спіс жаўнераў арміі Андэрса, чые рэчы сваякі могуць забраць:

166. Уласік Ёзаф Іванавіч, артылерыст, 1 узнагарода, Валожын, в. Рум.

167. Урлік Ёзаф Вінцэнтавіч, 1910 г.н., Свір, в. Засвір.

168. Ушак Зыгмунт, 1907 г.н., старшы стралец, 2 узнагароды, Браслаў, в. Антонінкі.

169. Валаўко Вацлаў Іванавіч, 1913 г.н., 4 узнагароды, Браслаў, в. Кол. Забор'е.

170. Варш Адам Антонавіч, 1916 г.н., капрал, Вязынка.

171. Вяршыла Ёзаф Канстанцінавіч, 1922 г.н., 3 узнагароды, у тым ліку ордэн Вертуці Мілітары, Свір, в. Чэрвонае Ручэ.

172. Вярбіцкі Юльян Леапольдавіч, 1912 г.н., капрал, 1 узнагарода, Паставы, в. Мядзель.

173. Віршыч Іван, 1912 г.н., стралец, 1 узнагарода, Валожын, в. Расолішкі.

174. Вішнеўскі Вінцэнт Баніфацыевіч, 1915 г.н., капрал, 2 узнагароды, Браслаў, в. Вазоўнікі.

175. Вайткевіч Ёзаф Францішкавіч, 1909 г.н., стралец, Браслаў, в. Відзы.

176. Замара Аляксандр, 1908 г.н., капрал, 1 узнагарода, Ашмяны, в. Слабодка.

177. Замара Фелікс Вінцэнтавіч, 1920 г.н., стралец, 1 узнагарода, Ашмяны, в. Пушчова.

178. Замосцік Пётр, 1919 г.н., сапёр, Браслаў, в. Лунец.

179. Заракоўкі Уладзіслаў, 1911 г.н., старшы сапёр, 2 узнагароды, Ашмяны, в. Муравана-Ашмянка.

180. Зарэцкі Юстын Пятровіч, 1911 г.н., артылерыст, 1 узнагарода, Паставы, в. Чарапкі.

181. Завадскі Юльян Раманавіч, 1911 г.н., артылерыст, Ашмяны, в. Мартыненка.

182. Зялінскі Вацлаў Тамашавіч, 1918 г.н., стралец, 1 узнагарода, Мінск.

183. Зяневіч Баляслаў, 1909 г.н., сапёр, 1 узнагарода, Валожын, в. Вікшняны.

184. Жаўняровіч Аляксандр Стэфанавіч, 1917 г.н., капрал, Вілейка.

185. Жызнеўскі Іван Францішкавіч, 1900 г.н., сяржант, 1 узнагарода, Ашмяны, в. Гальшаны.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

КАЛЯНДАР

**16 КАСТРЫЧНІКА**
**60 гадоў** з часу адкрыцця (1955) у Ашмянах раённага краязнаўчага музея імя Багушэвіча.

**17 КАСТРЫЧНІКА**
**115 гадоў** з дня нараджэння Ібрагіма Гембіцкага (1900 – 1974), беларускага графіка. Нарадзіўся ў сям'і беларускіх татар у Мінску. Скончыў Маскоўскі інстытут выяўленчых мастацтваў (1938). Дыпломная работа – ксілаграфічныя ілюстрацыі да аповесці Якуба Коласа "Дрыгва". Яго творчасць і цяпер прыцягвае да сябе ўвагу.

**19 КАСТРЫЧНІКА**
**125 гадоў** з дня нараджэння Сяргея Палуяна (1890 – 1910), беларускага пісьменніка, публіцыста, аднаго з пачынальнікаў беларускай прафесійнай літаратурнай крытыкі.

**20 КАСТРЫЧНІКА**
**360 гадоў** назад (1655) была падпісаная Кейданская дамова – Януш Радзівіл з вялікай групай шляхты заключылі ўнію Вялікага Княства Літоўскага са Швецыяй.

**21 КАСТРЫЧНІКА**
**80 гадоў** з дня нараджэння (1935) Юркі Генюша (г.п. Зэльва), пісьменніка і публіцыста. Сын паэткі Ларысы Геніюш. Як і бацькі, ён увесь час адчуваў пільную ўвагу спецслужбаў і загінуў пры нявысветленых абставінах праз два з паловай гады пасля матчынай смерці, 21 лістапада 1985 года. У 1993-м у Беластоку выйшаў яго паэтычны зборнік "З маёй званіцы".

**22 КАСТРЫЧНІКА**
**95 гадоў** з дня нараджэння (1920) Юркі Луцкевіча, вайскоўца, настаўніка, аднаго з кіраўнікоў Беларускай незалежніцкай партыі, вязня савецкіх канцлагераў, афіцэра батальёна "Дальвіц". Сын Антона Луцкевіча, вядомага дзеяча беларускага нацыянальнага руху. Падчас нямецкай акупацыі Беларусі ў гады Другой сусветнай вайны быў дырэктарам беларускай школы ў Радашкавічах. Удзельнічаў у нацыянальным падпольным руху, быў сябрам БНП. З 1944 – афіцэр БКА, удзельнічаў у падрыхтоўцы антынямецкага паўстання ў Мінску ў канцы чэрвеня 1944, якое не адбылося. Пасля – у батальёне "Дальвіц". Разам з Усеваладам Родзькам вясной 1945 з Чэхіі перабраўся ў Польшчу з мэтай арганізацыі антысавецкага падполля і партызанскага руху. Арыштаваны ў Варшаве ў канцы 1945-га. Асуджаны на 25 гадоў лагераў "за здраду і супрацоўніцтва з ворагам". Зняволенне адбываў на Калыме. У Беларусь вярнуўся ў 1957, потым жыў у Вільні. Памёр у 1992 годзе.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Галіна Шаранговіч – расіянка, якая рэ

## Вялюгін называў яе "Міс Беларусь", Гілевіч – лепшай сваёй рэдактаркай. Караткеві
## Жонка народнага мастака Беларусі, прафесара, нашага земляка Васіля Шаранговіча

**З Галінай і Васілём Шаранговічамі мы сустрэліся ў іх кватэры ў Мінску. За кубачкам кавы гаворка ішла і пра першую тройку выдатніцы, якую ўхапіла якраз па беларускай мове, і пра першае спатканне з маладым Васілём, якое магло скончыцца для яго турмой, пра сяброў, якія сталі беларускімі класікамі, і пра колазварот будняў, якія гэтая залатая пара пераўтварыла ў свята.**

Галіна Андрэеўна і Васіль Пятровіч разам ужо 53 гады.

**– Як жа вы пазнаёміліся?**

**Г.А.**: Я ў той час вучылася на філалагічным факультэце ў БДУ. Быў пачатак мая. Штосьці вучыла да заліку, а тут прыходзіць да мяне сяброўка: "Колькі можна вучыць? Пайшлі пагуляем, такое надвор'е!" Я тады жыла на вуліцы Энгельса, непадалёк ад нас быў парк Горкага, туды яна мяне і клікала. Пагадзілася з вялікай неахвотай, бо няма ж часу, такі важны залік.

**В.П.**: А я вучыўся на апошнім курсе мастацкай вучэльні, гэта 60-ы год. За пяць гадоў навучання ніколі не хадзіў на танцы ў горадзе. І адзення такога не было, жыў вельмі бедна. І танцы не любіў, толькі ў вёсцы. А мой сябар, з якім жылі разам на кватэры…

**Г.А.**: Будучы пісьменнік **Адольф Вaрановіч**. Зямляк Васіля, з Мядзельшчыны. На жаль, ужо памёр.

**В.П.**: Адольф хацеў пазнаёміцца з дзяўчынай. А ў мяне ж дыпломная праца, не да таго, зусім іншае ў галаве. На танцы тады ўсе дзяўчаты хадзілі па дзве. І хлопцы мусілі удвух хадзіць, каб пару разбіваць. Адольф пачаў угаворваць: "Там будзе духавы аркестр! Ну пайшлі, памажы!" І я пагадзіўся: "Добра, пайшлі. Толькі давай так. Мне ўсё роўна, таму ты з пары выбіраеш, каго хочаш, а мне – што застаецца". Мы прыйшлі, пачаліся танцы.

**Г.А.**: У гэты час і мы з сяброўкай падышлі да танцаў, што грымелі на ўвесь парк.

**В.П.**: Я Адольфу кажу: "Слухай, цяпер буду выбіраць я. А табе – што застанецца". Выбраў. Далей можна пра жаніцьбу распавядаць.

### Як пасля першага спаткання ледзьве не загрымеў за краты

**– Што вы тады падумалі адзін пра аднаго?**

**В.П.**: О, гэта была цэлая гісторыя! Я з маладосці не любіў савецкую ўладу. І калі мы пасля тых танцаў шпацыравалі з Галяй па вуліцах, нагаварыў супраць саветаў шмат чаго. Мы ж як жылі? Галодныя былі. Што ў вёсках было? Ды нічога не было. Пасля спаткання вяртаюся дахаты, Адольф пытаецца: "Ты не нагаварыў чаго лішняга?" Кажу: "Як заўсёды!" "Дык яна ж дачка першага сакратара райкама партыі!" Я схапіўся за галаву: заўтра мяне пасадзяць.

**Г.А.**: А назаўтра мы дамовіліся сустрэцца.

**В.П.**: Усё, думаю, чорны варанок свецідь. А ісці на спатканне трэба, мы ж дамовіліся. Сустрэцца павінны былі каля цяперашняга Палаца незалежнасці на Кастрычніцкай плошчы. На рагу, дзе цяпер метро. Раней каля палаца быў сквер сініх елак. Мы прыйшлі з Адольфам, схаваліся за елку, каб быў відаць вугал. Назіралі, ці прыедзе з ёй чорны варанок. Як убачылі, што яна прыйшла, Адольф выскачыў глядзець, ці ёсць засада. Засады не было, і я пайшоў.

**Г.А.**: Што я падумала? Ніякіх сур'ёзных намераў у мяне не было. Гляджу – цікавы, высокі. Бачу, асоба новая сярод маіх знаёмых. Пасля ўжо, калі мы гулялі, даведалася, дзе ён вучыцца. Здзівіла яго ўменне гаварыць. Ведаў Ясеніна, дэкламаваў на памяць "Ганну Снегіну". Мяне, студэнтку рускага аддзялення філфака, гэта зацікавіла.

**– Чаму ж вы не "здалі" спадара Васіля?**

**Г.А.**: Мае бацькі з Варонежскай вобласці. Бацька быў на партыйнай рабоце. Яго спачатку адправілі ў Маскву, потым прапанавалі паехаць у Беларусь у Дубровенскі раён Віцебскай вобласці. Ён пагадзіўся. Мне трэба было ісці ў пяты клас. Тады ў Беларусі было шмат ваенных, партыйных, прыязджалі з розных месцаў. Па заяве бацькоў ад вывучэння беларускай мовы можна было адмовіцца. Але бацька сказаў: "Мы прыехалі сюды. Мы тут будзем жыць, сярод гэтых людзей. Гэта будзе наша Радзіма. Не ведаць мову – нельга. Ты павінна ісці ў беларускую школу і вучыць гэту мову". І я пайшла. Добра памятаю, што настаўнікам беларускай мовы быў дырэктар нашай школы **Шабуня**. Ён казаў: "Старайся, слухай, як усе гавораць, чытай. Паглядзім, як у цябе будзе атрымоўвацца". Я выдатніца была, тут таксама захацела паказаць сябе. Першы верш, які вучылі на памяць, – "Жыве між нас геній" Якуба Коласа. Настаўнік выклікаў мяне яго дэкламаваць. Можаце ўявіць, якое ў мяне было вымаўленне. Дзеці пасмейваліся, пакуль расказвала. Настаўнік тады мне сказаў: "Малайчына, вывучыла. Толькі крышку вымаўленне трэба папраўляць. Сёння я табе стаўлю тры". Першы раз у жыцці я атрымала тройку! Такія слёзы былі дома, жах! Але пасля першай чвэрці я ўжо атрымоўвала пяцёркі. Бацькі мае былі вельмі разумнымі людзьмі. І бацька, сакратар райкама, партыйны работнік, быў вельмі мудры і тактоўны чалавек.

**В.П.**: Нягледзячы на тое, што я беларус і па-беларуску размаўляю, у нас з бацькамі жонкі склаліся выдатныя адносіны, рэдка ў каго такія бываюць. Цесця паважаў, хоць ніколі не любіў партработнікаў. Ён быў чалавекам зусім іншага складу: інтэлігентны, разумны. Ён мяне разумеў. Пра таго ж Хрушчова спрачаліся за сталом, што называецца, шашка на шашку. А пасля ён мог пагадзіцца, што я меў рацыю. І цешча была – дай бог кожнаму.

**Г.А.**: Нават калі казаць пра тое, што яны прынялі мой выбар. Дачка выходзіць замуж за студэнта. Гэта была партыя, як кажуць, не зусім.

### Пасля вяселля чатыры гады жылі на адлегласці

**В.П.**: Я вучыўся на другім курсе інстытута, калі Галя сказала, што трэба ісці да бацькоў размаўляць пра жаніцьбу. З пустымі рукамі не пойдзеш. А ў мяне ніколі грошай не было. За тыя два гады, што мы сустракаліся, яна і падумаць не магла, што ў мяне ў кішэнях пуста. Нуль! Неяк летам шпацыравалі, і мне вельмі захацелася піць. Вырашылі ісці па газіроўку, яна тры капейкі каштавала. Думаў, зараз аж дзве шклянкі вазьму, так піць хочацца. Падышлі да месца, дзе яе прадавалі, а там сок па дзесяць капеек. У мяне роўна столькі і ёсць. Узяў. Галя спыталася: "А ты? Ты ж так піць хацеў!" А я кажу: "Ужо перахацеў". Толькі аднойчы прызнаўся, што без грошай. Але дадаў: я так шмат працую, што Бог убачыць і адзячыць. Так яно і атрымалася ў жыцці. Карацей, тры рублі на шампанскае, каб ісці прасіць рукі, мне дала Галя. Пасядзелі з яе бацькам, гарэлачкі выпілі. Час ісці мне на цягнік, і ўжо каля дзвярэй прызнаўся, чаго прыйшоў.

**Г.А.**: Хаця яны ведалі, я ж папярэдзіла. Сказала, што мы так вырашылі. Бацька не зразумеў: "Нашто? Ты – тут. Яму яшчэ чатыры гады вучыцца". А я кажу: "Вось ён прыедзе, вы і пагаворыце. Мы лічым, што вытрымаем".

**В.П.**: Тады яе бацька, **Андрэй Іванавіч**, запытаўся: "Што, з мілай рай і ў шалашы?" А я яму: "У нас не шалаш будзе".

**Г.А.**: Ажаніліся праз два гады пасля знаёмства, у 62-м годзе. Я атрымала размеркаванне ў віцебскую школу, паехала да бацькоў. А ён паступіў пасля вучэльні ў мінскі інстытут, дзе яму заставалася давучыцца чатыры гады.

**В.П.**: Бацьку Галі тады ўжо перавялі ў Віцебск загадчыкам аддзела абкама партыі.

**Г.А.**: Мы зразумелі, што не будзем бачыцца, калі я з'еду. Нашы пачуцці згаснуць. Стаяў выбар: ці заканчваць адносіны, ці жаніцца. Хаця калі пачыналі сустракацца, Васіль сказаў, што яму яшчэ доўга вучыцца і жаніцца ён не збіраецца. А я адказала, што мяне ўвогуле гэтае пытанне не цікавіць.

**– І як вы вытрымалі гэтыя чатыры гады?**

**Г.А.**: Гэта былі самыя рамантычныя часы. На кожнае свята ці я ехала ў Мінск, ці ён прыязджаў. Але чатыры гады – выпрабаванне вельмі сур'ёзнае.

**В.П.**: Больш я ездзіў. Адзін раз увогуле на таксі прыехаў. Тады ўжо пачаў зарабляць, мог і па тэлефоне гаварыць з Галяй гадзіну! Хоць і дарога было. Прыехала да мяне ў Мінск на абарону дыплома. Толькі тады ўсе даведаліся, што я, аказваецца, жанаты.

**– Пярсцёнкаў не было?**

**Г.А.**: Мне Васіль падарыў на памяць, з кляновым лісточкам. А такія, як цяпер, заручальныя, не абавязкова каб былі.

**В.П.**: У мяне і да сёння няма.

### Хацелі ў Віцебск, але з Мінска не адпусцілі

**В.П.**: Калі скончыў вучобу ў Мінску, атрымаў накіраванне ў Віцебскі педагагічны інстытут. Натачыў колы: у мяне ж там цесць, усё павінна добра арганізавацца. Я ж да таго часу 13 гадоў на наймапай кватэры пражыў.

**Г.А.**: А ў Віцебску у нас не было б ні праблем з жытлом, бо ў бацькоў была добрая кватэра, ні праблем з працай, бо накіраванне мелі.

**В.П.**: Раптам мяне выклікае старшыня камітэта па друку **Рыгор Васільевіч Канавалаў**. Я на той час быў ужо вядомым графікам. Дыпломаў столькі атрымаў! Ужо і чалавек быў не бедны. Выйшаў з галаты, з галадухі. І ён стаў мяне ўпрошваць застацца. Кажу: "Як так? У мяне ж жонка". А ён: "Заставайцеся, за год дадзім вам аднапакаёўку". І я пагадзіўся. Спачатку мяне размеркавалі ў выдавецтва "Беларусь". Праз год перайшоў у тэатральна-мастацкі інстытут, дзе працаваў 30 гадоў.

### Як ледзьве не пайшла ў райкам

**Г.А.**: Калі пераехала ў Мінск, мы пасяліліся ў прыватнай кватэры ў так званым сельгаспасёлку. Пачала шукаць працу настаўніка. У Віцебску была настаўніцай рускай і нямецкай моў. Да завуча дайшла, перспектывы адкрываліся добрыя. А тут мне кажуць, што ў Мінску не патрэбныя настаўнікі мовы. Год пасядзела без працы, больш не было ніякай сілы. Выхоўвалі ж так, што жанчына мусіць працаваць. Тады бацька мне сказаў схадзіць у камітэт камсамола. Я на той час ужо амаль скончыла аспірантуру, таму ў камсамоле мне прапанавалі стаць загадчыцай аддзела навуковай моладзі. Я падумала: новая работа, няхай будзе, ва ўсялякім выпадку не буду сядзець дома. Памятаю, сакратар райкама пытаецца: "Ці замужам?". Кажу: "Так, прыехала да мужа". Ён: "Як муж? Ці не раўнівы? У нас ненармаваная праца, можам позна затрымлівацца". А адкуль я ведаю, ці раўнівы? Кажу: "Пэўна, не". Прыходжу дамоў, расказваю Васілю, што працу знайшла, толькі адно пытанне дзіўнае задалі: ці не раўнівы? Ён тады сказаў: "Ці я, ці гэты твой райкам". Я адмовілася ад райкама. Хутка Васіль даведаўся, што вызвалілася месца малодшага рэдактара ў выдавецтве "Беларусь". Малодшы рэдактар – самая нізкая прыступка ў выдавецкай справе. 70 рублёў аклад – сімвалічны. У тыя часы сярэдні заробак быў 120 рублёў. Але ж праца літаратурная, а я філолаг. Пагадзілася. У рэдакцыі "Перавыданні і пераклады" было сем чалавек. Рэдактарам працаваў **Рыгор Барадулін**. З таго часу мы з ім і знаёмыя. Гэта быў 67-ы год. Мы перавыдавалі лепшыя творы, перакладалі з рускай на беларускую і наадварот. Я вельмі хутка стала рэдактарам. У 1972 годзе ад выдавецтва "Беларусь" аддзялілася выдавецтва "Мастацкая літаратура". Стварылі асобнае выдавецтва,



Галіна Андрэеўна і Васіль Пятровіч у сваёй кватэр

# ...дагавала тэксты беларускіх класікаў

## ...ч і Барадулін прысвячалі вершы. ... ўпершыню дае інтэрв'ю



...ы ў Мінску.



Партрэт Галіны Андрэеўны, намаляваны Васілём Пятровічам.



*Якая сьветлая хвіліна!*
*Ад думак галава дурэе:*
*У белых боціках Галіна,*
*Дачка Андрэя..*
**Рыгор Барадулін для Галіны Шаранговіч.**

дзе я працавала ўжо старшым рэдактарам. Пасля стала загадчыцай рэдакцыі перакладаў.

**– Прыгадаеце сустрэчы з пісьменнікамі?**

**Г.А.**: Сяджу неяк вечарам, ужо ўсе пайшлі. Выцягваю з шафы таўсценныя папкі рукапісаў **Караткевіча**. Мы рыхтавалі да выдання "Каласы пад сярпом тваім". Уключаю настольную лямпу і чытаю. Тут хтосьці заходзіць і кажа: "Што гэта тут дзяўчынка так чытае, нічога не бачыць?" Я адрываюся. Гляджу на незнаёмца ў паўзмроку: "Вельмі цікавы, такі цікавы твор!" Адварочваю папку, а там напісана "Каласы пад сярпом тваім". Госць садзіцца за стол перада мной і пытаецца: "А ведаеш, хто я?" "Не, – кажу, – не ведаю". "Я ж Караткевіч". Вось так мы і пазнаёміліся. Васіль Пятровіч таксама быў знаёмы з ім усё жыццё.

### Брыль не паверыў, што Галіна з Расіі

**Г.А.**: Пасля выдавецтва я ўжо ні ў якую навуку ісці не захацела, хоць і пісала дысертацыю па моваязнаўстве. Літаратурная работа была насычаная сустрэчамі са знакамітымі людзьмі, таму ўсё жыццё ёй і прысвяціла. **Мележа** цяпер у школе вывучаюць. А я памятаю, як ён пасля кожнай паездкі на Палессе абавязкова прыходзіў да нас у рэдакцыю. Шмат расказваў пра балоты, меліярацыю. Прадбачыў, чым яна закончыцца. А **Іван Пятровіч Шамякін**. Такі разгаворлівы чалавек! Прыходзіў, расказваў пра жыццё, сям'ю.

**В.П.**: Сустракаю аднойчы **Брыля** недзе на праспекце каля ГУМа. Лепш за яго мову мала хто адчуваў. Кажа: "Васіль! Якая ў цябе жонка беларуска! Так тонка ведае беларускую мову!" Кажу: "А вы ведаеце, што яна з Варонежа родам?" Ён: "Не можа быць". Я: "Дык што, Іван Антонавіч, можа пашпарт паказаць?" Ён так і не паверыў. Дарэчы, ведаеце, якая мянушка ў маёй жонкі ў выдавецтве была?

**Г.А.**: **Анатоль Вялюгін** прыйшоў некалі і сказаў: міс Беларусь. У сэнсе – міс выдавецтва. А гучала як міс усёй Беларусі.

**– Што вам узгадваецца з вашай выдавецкай дзейнасці?**

**Г.А.**: Згадваю сваю працу ў "Мастацкай літаратуры" і думаю, як шмат мы выдавалі! Пераважна беларускую літаратуру. Шмат перакладалі на беларускую мову. Спачатку была адна рэдакцыя перакладаў, а пасля настолькі павялічыўся аб'ём перакладной літаратуры, што рэдакцыя падзялілася. Я ўзначаліла рэдакцыю літаратуры народаў СССР. Мы выхоўвалі перакладчыкаў, якія маглі б перакладаць на беларускую з розных моў СССР. Нас чыталі. Гэта была метадычная, сур'ёзная праца. Цяпер усё перапынілася. Няма таго аб'ёму беларускай літаратуры. Раней рэдакцыі супрацоўнічалі з абласнымі цэнтрамі. Наша – з Віцебскам. У нас былі кантакты сярод прадаўцоў у кніжных крамах, якія дапамагалі ладзіць вечары сустрэч. На іх прыходзілі людзі, куплялі кнігі, бралі аўтографы ў пісьменнікаў, якіх мы запрашалі. З задавальненнем ездзіў Рыгор Барадулін, бо гэта ж яго мясціны, ён ушацкі. Запрашала **Васіля Сёмуху**, выдатнага перакладчыка. Мы паказвалі, што Беларусь мае пісьменнікаў, мае літаратуру. Чытайце! А напрыканцы 90-х гадоў я вырашыла адысці ад выдавецкай працы.

Мне стала нецікава. Не стала аддзела літаратуры народаў СССР, зрабілі зноў адну рэдакцыю. Змянілася канцэпцыя, трэба было выдаваць тое, што прыносіць грошы. Творчая праца знікла. Гэта не для мяне. Тым больш якраз у гэты час нарадзілася ўнучка. Я вырашыла, што аддала дзяржаве ўсё, што магла, і час займацца сваёй сям'ёй. Я назіраю, куды рухаецца выдавецкая справа, бываю на кніжных выставах. Ёсць добрыя выданні, але іх малавата.

**– Каго вам даводзілася перакладаць?**

**Г.А.**: Перакладала беларускую літаратуру на рускую. Раней пераклады для маскоўскіх выдавецтваў рабілі рускія перакладчыкі. Калі мы пачалі выдаваць перакладную літаратуру, сутыкнуліся з тым, што іх пераклады недакладныя, прыблізныя і нават скажоныя. Былі смешныя выпадкі: у перакладзе надвор'е робіцца "подворьем". Мы пачалі заказваць новыя пераклады нашым, беларускім перакладчыкам. Чаму **Быкаў** сам перакладаў свае творы? Таму што адзін пераклад маскоўскага перакладчыка перажыў і сказаў, што больш не жадае. У Быкава мова простая, дакладная. Скажэнне аднаго слова прыводзіць да скажэння сэнсу. Але беларускамоўны пісьменнік не валодае ў патрэбнай меры багаццем рускай мовы, каб рабіць гэта дасканала. Першай маёй кнігай, якую давялося рэдагаваць, быў зборнік аповесцяў Быкава. Мы працавалі над перакладам з ім разам. Ён тады жыў у Гродне. У мяне дома захаваліся яго лісты. Спачатку працавалі на адлегласці, потым сустрэліся ў выдавецтве. Працавала і з творамі **А. Кулакоўскага**, І. **Навуменкі**, І. Мележа, І. Шамякіна, **У. Дамашэвіча**, **А. Кудраўца**, **А. Жука**. Нават паэтычную кнігу **Ніла Гілевіча** давялося перакладаць. Потым пры сустрэчы казаў: "Найлепшы мой рэдактар". І сама з задавальненнем перакладала на рускую мову творы **Л.Дайнэкі**, **У. Рубанава**, **У. Дамашэвіча**, **Т. Бондар**, **А. Варановіча**, **А.Кудраўца** і шмат каго яшчэ. Калі рэдагуеш ці перакладаеш самабытнага пісьменніка, таго ж Мележа ці Сачанку, трэба ведаць глыбінныя пласты мовы. Тут дапамагаюць слоўнікі – гістарычныя, дыялектныя, фразеалагічныя.

**В.П.**: Таму ў нас дома і такая шматфігурная бібліятэка. У адных шафах мастацкія творы, у другіх – слоўнікі, у трэціх – энцыклапедыі, у чацвёртых – сусветная літаратура, пятых – філасофія і гісторыя, якімі я займаюся. У іншым пакоі шафа з беларускай літаратурай і сусветнай. У яшчэ адным пакоі шафа з самымі дарагімі кнігамі, прывезенымі з-за мяжы. Адусюль, дзе даводзілася бываць, імкнуўся прывезці кнігі па мастацтву. Ёсць у нас і факсімільныя выданні.

**Г.А.**: Тое, што мы з Васілём у адным працоўным і сяброўскім коле, узбагачала наша сямейнае жыццё. Некаторыя прыходзяць дадому і пачынаюць гаварыць паміж сабой пра нешта бытавое, а ў нас і дома працягваліся творчыя абмеркаванні. Ён распавядае пра новыя ілюстрацыі, я – што нехта прынёс новы твор.

**– Дом часта быў поўны гасцей?**

**Г.А.**: Яшчэ як! Нашаму сыну праз год 40 гадоў. Пытаюся ў яго: "Памятаеш, як у таты было 40 гадоў?" Мы тады з самага вялікага пакоя вынеслі ўсю мэблю і паставілі сталы па перыметры. Гасцей было каля 40.

**– Як арганізоўвалі быт? Абодва занятыя, творчыя.**

**Г.А.**: Было строгае размеркаванне. Ніколі не запрашалі электрыкаў ці майстроў. Васіль Пятровіч усё па доме, дзе патрэбная мужчынская рука, заўсёды рабіў сам.

**В.П.**: Ёй цвікоў забіваць не даводзілася.

**Г.А.**: А я сачыла, каб заўсёды ў доме быў парадак, каб была прыгатаваная ежа. Васіль ніколі не хадзіў у сталоўку. Я магла класціся ў 12 гадзін ночы, але дома ўсё павінна быць прыбрана і падрыхтавана. Займалася домам з аптымізмам. Быт мяне ніколі не прыгнятаў, а работа была што свята. Нашу першую кааператыўную кватэру ў Зялёным Лузе абжывалі з вялікім імпэтам. Васіль сам усё там рабіў. Пры яго занятасці гэта быў подзвіг. Пераязджаем сюды – і ўсё па новай. Ён знаходзіў час.

**В.П.**: І лецішча сам будаваў. Калі набылі стары нежылы дом на Мядзельшчыне, сам даводзіў да ладу: электрыку правёў, альтанку паставіў.

**Г.А.**: Пацягнула Васіля на родныя землі. Нам там падабаецца. Выходзіш: неба, зоркі, месяц, яднанне з прыродай. З вясны да восені там жывём. Котка наша там таксама адчувае сябе выдатна.

Стаіць гэты дом за 10 кіламетраў ад вёскі, у якой нарадзіўся народны мастак Беларусі.

**Даведка "РГ".**
**Галіна Шаранговіч** нарадзілася 15 ліпеня 1940 года ў пасёлку Хварасцянка Варонежскай вобласці.
**Васіль Шаранговіч** – 14 студзеня 1939 года ў вёсцы Качаны на Мядзельшчыне.
Сын Васіля і Галіны **Уладзіслаў** працуе за мяжой у галіне высокіх тэхналогій.
Дачка **Наталля** – мастацтвазнаўца, дырэктар Нацыянальнага цэнтра сучаснага мастацтва ў Мінску.
Унучка **Юлія** – студэнтка беларускай Акадэміі мастацтваў.



**Настасся РОЎДА**
nastya.rovdo
@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)

● НАВІНЫ

## Баксёр з Маладзечна стаў бронзавым прызёрам чэмпіянату свету

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскі баксёр **Дзмітры Асанаў** стаў бронзавым прызёрам чэмпіянату свету ў катэгорыі да 56 кілаграмаў.

У паўфінале сусветнага форуму, які праходзіць у сталіцы Катара горадзе Доха, Асанаў сустрэўся з чэмпіёнам Еўропы і медалістам летніх гульняў у Лондане **Майклам Конланам** з Ірландыі. На жаль, беларус уступіў па ачках у трох раўндах – 0:3 (27:30, 28:29, 28:29) і не выйшаў у фінал. Але ўдастоіўся бронзавай узнагароды, паколькі паядынкі за трэцяе месца на турнірах вышэйшай катэгорыі не праводзяцца.

Медаль Дзмітрыя Асанава стаў адзіным для зборнай Беларусі на чэмпіянаце свету.

Паводле БЕЛТА.

## "Ашмяны" сакрушальна прайгралі

АШМЯНЫ

ФК "Ашмяны" 10 кастрычніка на дамашнім стадыёне прайграў "Тарпеда" з Мінска – 0:5. Галы пачалі ўлятаць у вароты гаспадароў з 14-й хвіліны, а скончыліся на другой дададзенай хвіліне матча.

Пасля трэцяга тура фінальнай часткі чэмпіянату Беларусі па футболе ў другой лізе "Ашмяны" апусціліся з пятага на шостае месца.

## "Вілія" са Смаргоні ідзе другой

СМАРГОНЬ

Смаргонская "Вілія" 4 кастрычніка сустракалася з асноўным канкурэнтам у барацьбе за перамогу ў чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па футболе. У Скідзелі гулялі з ФСК "Гродзенскі". Гаспадары перайгралі смаргонцаў з лікам 2:0 і адсунулі тых з першага на другое месца.

– Цяпер яны нас апярэджваюць на два ачкі. Але наперадзе яшчэ дзве гульні, – кажа гулец "Віліі" **Віталь Будай**.

## "Вілія" з Вілейкі згуляла ўнічыю з лідарам

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

– Мона сказаць, што мы згубілі два ачкі, а не здабылі адно, – каментуе матч з лідарам чэмпіянату, "Коласам" з Чэрвеня, прадстаўнік "Віліі" **Алег Гулевіч**. – Роўная гульня была ў першым тайме. Нельга было сказаць, што прыехаў лідар.

Матч 23 тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе прайшоў 11 кастрычніка ў Вілейцы.

Першы тайм завяршыўся з лікам 2:0 на карысць віляйчан. Галы забілі **Павел Ляпета** і **Аляксандр Грыхуцік** (з пенальці).

– У першым тайме траўмавалі Паўла Ляпету, які трымаў усю гульню ў цэнтры. Да канца тайма ён неяк дагуляў. А на другі выйсці не змог: даваўся замяніць. Пасля яго замены госці ўзялі ініцыятыву ў свае рукі.

Як вынік, гульцы "Коласа" забілі два галы і зраўнялі лік.

**– За кошт чаго ўдалося дастойна згуляць з лідарам?**

– З-за самааддачы гульцоў, былі ўсе настроеныя на гульню. Было жаданне дапамагчы маладзечанцам, выйграць у іх канкурэнта.

Астатнія каманды з рэгіёна свае дамашнія матчы 11 кастрычніка таксама згулялі ўнічыю. "ДЮСШ-4" з Маладзечна – з "Нёман-Агра" 3:3. Галы на рахунку **Касцюка, Талькоўскага і Фядотава.**

"Забудова-Буд" разышлася з мірам 2:2 з "Крупкамі-ДРБУ". Вызначыліся **Будай** і **Мамай.**

"ДЮСШ-4" набрала 44 ачкі і апусцілася з другога на трэцяе месца. Адставанне ад "Коласа" складае пяць ачкоў, ад ФК "Фалько" – адно. "Вілія" і "Забудова-Буд" маюць па 31 ачку. "Вілія" – на сёмым, "Забудова-Буд" – на восьмым месцы.

## Ашмянцы сталі трэцімі на турніры, які заснаваў "Самы дужы чалавек планеты"

АШМЯНЫ

У Вільні 3-4 кастрычніка праходзіў Кубак Усходняй Еўропы па паўэрліфтынгу "Савіцкас Класік 2015".

Яго заснавальнік **Жыдрунас Савіцкас** – уладальнік тытулаў "Самы дужы чалавек планеты", "Самы дужы чалавек свету" 2009, 2010, 2012 і 2014 гадоў. Дасягненні Савіцкаса занесены ў кнігу рэкордаў Гінеса.

Прадстаўнікі спартыўна-атлетычнага клуба "Аякс" з Ашмянаў занялі агульнакамандное трэцяе месца. Пра гэта паведаміў трэнер "Аякса" і Ашмянскай ДЮСШ, старшы трэнер юнацкай і юніёрскай зборнай Беларусі па паўэрліфтынгу **Міхаіл Станкевіч**.

Алесь ВЫСОЦКІ.

● ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

# "Не наша гульня"

## "Маладзечна-ДЮСШ-4" саступіла мінскаму "Праменю" з лікам 0:2

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанская каманда прымала гасцей на дамашнім стадыёне ў суботу, 10 кастрычніка. У выніку гульні апусцілася з другога на трэці радок турнірнай табліцы.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Пасля траўмы.

Гульня ішла пры пяці градусах цяпла. На трыбунах было няшмат гледачоў, фанацкі сектар налічваў каля дзесяці заўзятараў, якім удалося стварыць гучную падтрымку.

Калі ў першым тайме ініцыятыва была пераважна на баку маладзечанцаў, то другі стаў паступовым рухам да паражэння.

Першы тайм быў больш багаты на галявыя моманты, за якія гледачы ўзнагароджвалі каманду апладысментамі. Хаця паўабаронца **Дзмітры Касцюк** ацэньвае іх хутчэй як "паўмоманты".

### Прэтэнзіі толькі да сябе

Футбаліст не прымае прапанову спісаць слабую дынаміку гульні на надвор'е:

– Калі бегаеш, холаду не адчуваеш. Галоўнае – добра размяшчаца перад гульнёй. А ўжо ў час самога матча эмоцыі засцілаюць любы холад. Тым больш, што і мы, і сапернік наконт надвор'я ў абсалютна роўных умовах.

Жоўтыя карткі атрымоўвалі як маладзечанская каманда, так і сапернік. Касцюк каментуе пытанне парушэнняў так: да суддзі прэтэнзій няма, толькі да сябе.

Другі тайм маладзечанцы гулялі яшчэ слабей і ў выніку прапусцілі першы гол на 53-й хвіліне, а закончылі з лікам 0:2. Гульню сапернікa не назавеш агрэсіўнай, але напружанне расло ўвесь матч. Ствараць галявыя моманты напрыканцы сезона заўсёды складаная задача: ідзе барацьба за месцы ў фінале, кожнае ачко мае вагу. Такая барацьба будзе толькі ўзмацняцца з кожным матчам да канца сезона.

### Лёгкай гульні і не чакалі

Дзмітры Касцюк падсумоўвае, што маладзечанцы лёгкай гульні і не чакалі, але матч атрымаўся зусім не нашай гульнёй.

На гэта ёсць суб'ектыўныя прычыны: многія футбалісты асноўнага саставу не змаглі ўдзельнічаць у матчы. Хаця стараліся ўсе, вылучыць зорку гульні не выпадае. Безумоўна, каманда стомленая: у кожнага ёсць асноўнае месца працы, штодзённыя трэніроўкі, гульні другой лігі, а таксама абласныя спаборніцтвы. Нагрузка на каманду вялікая, і футбалісты выдатна разумеюць, што ў апошніх гульнях камандзе чагосьці не хапае, гульцы ствараюць вельмі мала галявых момантаў.

Заўзятар маладзечанскай каманды **Дзмітры Рухлевіч** каментуе матч так: "За тры туры фінальных гульняў мы набралі ўсяго два ачкі і забілі толькі адзін мяч. Што адбылося з камандай? Папярэднія гульні камандаў групы А даказалі, што з клубамі другой групы можна гуляць у свой футбол і набіраць ачкі, але... штосьці ідзе не так менавіта ў нас. Мы так лёгка згубілі пераваргу перад сапернікамі, якую так цяжка заваёўвалі, і апынуліся на мяжы вылету з прызавой тройкі".

Галоўны трэнер маладзечанскай каманды **Аляксандр Гармаза** адмовіўся каментаваць пройгрыш.

Матч трэба разбіраць, каб зразумець памылкі і атрымаць шанец падняцца вышэй у турнірнай табліцы. Ці хаця б не згубіць цяперашнія пазіцыі.

Наступная гульня адбудзецца 17 кастрычніка на выездзе супраць клецкай каманды.

Зоя ХРУЦКАЯ.

### Турнірная табліца

| № | Каманда | Гульні | Выйгрышы | Нічыe | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Узда | 9 | 4 | 4 | 1 | 16-9 | 16 |
| 2 | Тарпеда (Мінск) | 9 | 4 | 3 | 2 | 10-6 | 15 |
| 3 | Маладзечна-ДЮСШ-4 | 9 | 3 | 5 | 1 | 13-8 | 14 |
| 4 | Вікторыя (Мар'іна Горка) | 9 | 4 | 2 | 3 | 11-11 | 14 |
| 5 | Прамень (Мінск) | 9 | 4 | 1 | 4 | 10-11 | 13 |
| 6 | Ашмяны | 9 | 3 | 2 | 4 | 13-13 | 11 |
| 7 | Клецк | 9 | 3 | 1 | 5 | 10-16 | 10 |
| 8 | Асіповічы | 9 | 2 | 0 | 7 | 12-21 | 6 |

### Каляндар наступных гульняў

| Дата | Сапернік | Месца |
|---|---|---|
| 17 кастрычніка | "Клецк" | Выезд |
| 24 кастрычніка | "Тарпеда", Мінск | Выезд |
| 31 кастрычніка | "Узда" | Дома |
| 7 лістапада | "Прамень", Мінск | Выезд |
| 14 лістапада | "Клецк" | Дома |

● ПЕРШАЯ ЛІГА

# "Смаргоні" зноў забілі гол з цэнтра поля

СМАРГОНЬ

**Як і ў мінулым туры, "Смаргонь" 11 кастрычніка прайграла ў гасцях з лікам 2:4. На гэты раз "Крумкачам" з Мінска.**

Гаспадары выйшлі наперад на 8-й хвіліне. На 36-й смаргонцы забілі гол у адказ. **Яўген Калінін** увайшоў у штрафную і выдаў мяч міма варатара, які кінуўся яму ў ногі, пад удар **Уладзіміру Казко**. Таму заставалася толькі патрапіць у вароты.

Праз тры хвіліны гаспадары павялі 2:1. Як пры першым голе, укалацілі мяч у сетку з ліччавых метраў.

Смаргонцы мелі некалькі цудоўных момантаў зраўняць лік. Але мяч то трапляў у крыжавіну, то абаронца выносіў яго з пустых варот. Пакуль на 62-й хвіліне Яўген Калінін дакладным ударам не паклаў мяч у кут варот: 2:2.

Праз дзве хвіліны "Крумкачы" зноў выйшлі наперад. А на 87-й хвіліне **Піліп Іваноў** адабраў мяч у цэнтры поля ў абаронцы "Смаргоні" і ўдарыў. Мяч пералцеў варатара **Радзівона Жука**, які выйшаў далёка з варот, і закаціўся ў сетку.

– Чарговы гол з цэнтра поля, – прыгадалі заўзятары "Смаргоні".

Прапускаць галы з цэнтра поля ў канцы матча становіцца сумнай традыцыяй для смаргонцаў. Практычна гол такі атрымалі гол са штрафнога амаль з цэнтра поля ў сустрэчы з пінскай "Хваляй", і вось цяпер.

"Смаргонь" пасля гэтага паражэння апусцілася на сёмае месца.

Алесь ВЫСОЦКІ.

## Камент-эксперт

**Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце**

Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках

**Першая беларуска ў гісторыі атрымала Нобелеўскую прэмію**

Гэта неверагодная навіна!!! Ашалець!!! Віншаванні! Сёння свята ва ўсіх беларусаў! Апладысменты.

**Валанцёры з чатырох краін наводзілі парадак на вайсковых пахаваннях Першай сусветнай на Мядзельшчыне**

"Як на пахаваннях нямецкіх салдат, так і рускіх". – А ці дойдзе калі-небудзь чарга да пахаванняў беларусаў на сваёй жа роднай зямельцы, якія загінулі падчас вайны?! Нямецкія, французскія, рускія, але толькі не беларускія. ***Алесь Раткевіч.***

**Вілейскі дзяржаўны каледж сярод лепшых у вобласці па добраўпарадкаванні**

Такія фота каледжа, што хочацца самой пайсці вучыцца! ***Лэдзі.***

Адміністрацыя каледжа выклікае вялікую павагу да сябе тым, як шмат яна робіць для сваіх навучэнцаў. Малайцы. Пабольш бы такіх кіраўнікоў! ***Рэгіна.***

**Пайшоў з жыцця апошні Козел-Паклеўскі, народжаны на Вілейшчыне**

Навіна вельмі сумная. Але ж так уладкаванае жыццё. Галоўнае, пражыць яго годна. Хай зямля яму будзе пухам. Мае спачуванні родным спадара Тадэвуша. ***Алесь Раткевіч.***

**Гаспадар "сцякляшак" у Маладзечне ў судзе будзе змагацца за працоўныя месцы**

З Валікам можна пагадзіцца. Але пакуль няма грошай, невядомыя інвестары, навошта чапаць гэтыя гандлёвыя рады? Няхай працуюць. ***Эмануіл.***

ВЫСТАВЫ

# Фотагісторыі маладзечанак з'явяцца на выставе ў Мінску

Фотавыстава "Дотык" пачынае працаваць 15 кастрычніка ў Мінску ў прасторы SPACE (вул. Кастрычніцкая, 16-а, будынак на тэрыторыі станкабудаўнічага завода).

Выставу ладзяць у рамках месяца фатаграфіі.

Гэты фотапраект – выпускныя работы маладых фатографаў з усёй Беларусі, падрыхтаваныя ў межах адукацыйнага курса "Лаві момант!" Беларускай асацыяцыі журналістаў.

Разам з куратарам праекта фотажурналістам **Сяргеем Балаем** (Беларусь) і фатографам **Рамуальдасам Вайткусам** (Літва) студэнты курса стварылі 14 гісторый пра любоў і веру, самаахвяраванне і сілу волі, адзіноту і жаданне жыць.



Фота Настассі РОЎДЫ.

**Здымак з фотагісторыі "Шавец" карэспандэнткі "РГ" Настассі Роўды.**

У адной з фотагісторый, аўтарка якой карэспандэнтка "РГ" **Настасся Роўда**, распавядаецца пра маладзечанскага шаўца.

У іншай, над якой працавала карэспандэнтка "Маладзечанскай газеты" **Юлія Шаблоўская**, – гісторыя невідушчага чалавека, які жыве і працуе ў Маладзечне.

Выстава будзе доўжыцца да 29 кастрычніка.

**Аддзел інфармацыі.**

ГАРАСКОП 16-22 КАСТРЫЧНІКА

**Авен.** Калі ў вас ёсць дзеці, то больш часу праводзьце з імі, займайцеся іх выхаваннем. Яны абавязкова вас парадуюць і здзівяць поспехамі.

**Цялец.** Захаваць цудоўныя адносіны пры вельмі хісткіх адносінах зможа той, у каго хопіць смеласці весці сябе так, як ні ў чым не бывала.

**Блізняты.** Надышоў той час, калі вы самі творыце сваё шчасце. Адчуйце перамены ў асабістым жыцці, праяўляйце ініцыятыву.

**Рак.** Ідзіце туды, дзе яшчэ не былі, рабіце тое, што ніколі ў жыцці не рабілі. І не верце тым, хто скажа, што так не бывае. Бывае! Ды вы і самі адчуеце, што так павінна быць. І складайце планы, каб дух займала ад вашай смеласці.

**Леў.** Стаўце перад сабой маштабныя мэты, павышайце планку чакання і не лянуйцеся: вам многае будзе дадзена зоркамі.

**Дзева.** Калі ў сям'і наспяваюць буйныя спрэчкі, то не накручвайце сябе, ведайце, што дрэнныя думкі маюць уласцівасць збывацца. Лепш пагаварыце з мудрым чалавекам.

**Шалі.** Спрабуйце сябе ў тым, чым ніколі не займаліся. Пазбаўцеся ад усяго таго, што аджыло, каб упусціць свежае паветра ў ваша жыццё.

**Скарпіён.** Гэты час пашырыць межы вашага пазнання – вы з поспехам можаце пісаць дысертацыю, выступаць перад масавай аўдыторыяй, здаваць экзамены экстэрнам.

**Стралец.** Вы можаце здзейсніць прарыў, выйсці на новы ўзровень развіцця. Можаце ствараць свой бізнес. Не бойцеся нічога! Ключ – энергія, якая вас перапаўняе.

**Казярог.** Можаце займацца ўсім, што толькі ні прыйдзе ў галаву, бо наведаюць вас пераважна думкі карысныя і своечасовыя, якія вы зможаце выкарыстаць у інтарэсах усялякай работы.

**Вадалей.** Стаўце мэту і няспешна і цярпліва ідзіце ёй насустрач. А тое, што вы яе даб'яцеся, сумненняў не выклікае. Рабіце добрыя справы, і ўдача не прымусіць сябе чакаць, усё акупіцца ў сто разоў.

**Рыбы.** Удачны збег абставін выведзе вас на кантакт з патрэбнымі людзьмі. Не адмятайце магчымасці, якія не прыносяць вялікага прыбытку цяпер – вельмі магчыма, яны прынясуць немалыя дывідэнды потым. І не нервуйцеся па дробязях.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

РЭПЕРТУАРЫ

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Кот у ботах**" (музычная казка), *Вольга Ліс*
20 кастрычніка – у 11:30

"**Всё будет хороШОУ!**" (прыгодніцкае шоу-прадстаўленне), *Алег Чэчанеў*
22 кастрычніка – у 11:00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Свінтус грандыёзус, альбо Хто смяецца апошнім**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Кандрат Крапіва*
20 кастрычніка – у 19:00

"**Чатыры навелы пра каханне**". *С.Злотнікаў, Л.Пятрушэўская, А.Слапоўскі, В.Распуцін*
21 кастрычніка – у 19:00

"**Псіхааналітык для псіхааналітыка**" (шчырая камедыя для дарослых у 2-х дзеях), *Дыяна Балыка*
22 кастрычніка – у 19:00

**Тэатр мае права на замену спектакляў**

*Маладзечна, вул. Чкалава, 7.*
Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32**, **75-29-16**.
E-mail: modt@tyt.by
http://theatre-modt.by

УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Прывітанне для мартышкі"** (камедыя ў 2-х дзеях, бел.), *Р.Осцер*
18 кастрычніка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в. Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

МАТЛ "Батлейка" УНП 600136804

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фэнтэзі, прыгоды, сямейны "**Пэн: Падарожжа ў Нетландыю**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
17 кастрычніка – у 17:00
18 кастрычніка – у 14:20
20 кастрычніка – у 17:10
22 кастрычніка – у 19:50
Цана білета: 30 000 – 50 000 рублёў

Прыгоды, фантастыка "**Марсіянін**" (3D, ЗША, 2015, пасля 16 год)
16, 21 кастрычніка – у 22:00
17, 19 кастрычніка – у 19:20
18 кастрычніка – у 16:40
Цана білета: 55 000 – 60 000 рублёў

Камедыя "**Стажор**" (ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
19 кастрычніка – у 17:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Перапалох у джунглях**" (3D, Мексіка, Паўднёвая Карэя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
17 кастрычніка – у 11:00
18 кастрычніка – у 12:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Кунг-фу Трусік: Валадар агню**" (3D, Кітай, 2015, без узроставых абмежаванняў)
17 кастрычніка – у 12:50
Цана білета: 30 000 рублёў

Трылер, драма "**Радзіма**" (Расія, 2015, пасля 18 год)
16 кастрычніка – у 17:20
18, 20 кастрычніка – у 22:00
Цана білета: 45 000 – 50 000 рублёў

Трылер, прыгоды, драма "**Прагулка**" (3D, ЗША, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
16, 18, 20, 21 кастрычніка – у 19:30
17, 19, 22 кастрычніка – у 22:00
Цана білета: 55 000 – 60 000 рублёў

Трылер, баявік, драма "**Мы, браты**" (Беларусь, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
17 кастрычніка – у 14:50
21 кастрычніка – у 17:20
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Анімацыя, фэнтэзі, камедыя "**Монстры на канікулах**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
22 кастрычніка – у 17:50
Цана білета: 50 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя, дзіцячы "**Прыгоды катабоя**" (Расія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
17, 18 кастрычніка – у 15:30
10, 11 кастрычніка – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Прыгоды "**Гэта твой дзень**" (Расія, 2013, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
16 кастрычніка – у 17:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Камедыя **"Каханне ад усіх хвароб"** (Францыя, 2014, пасля 16 год)
16, 18 кастрычніка – у 19:00
17 кастрычніка – у 21:30
19 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Меладрама, драма "**Сірэна**" (ЗША, Францыя, Чэхія, 2014, пасля 16 год)
16, 18 кастрычніка – у 21:00
17 кастрычніка – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прыгоды, біяграфія, гісторыя "**Піраты Эгейскага мора**" (Расія, Грэцыя, 2012, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
17 кастрычніка – у 17:30
18 кастрычніка – у 17:00
19 кастрычніка – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Баявік, камедыя, прыгоды "**Асабліва небяспечная**" (ЗША, 2014, пасля 16 год)
20, 22 кастрычніка – у 19:00
21 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Драма "**Апошняя ноч**" (Расія, 2015, пасля 18 год)
20, 22 кастрычніка – у 21:00
21 кастрычніка – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

**Забраніраваць білет можна праз сеціва на сайце megamag.by.**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Драма "**Апошнія рыцары**" (Чэхія, пасля 16 год)
16 кастрычніка – у 18:00
17 кастрычніка – у 19:30
18 кастрычніка – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Баявік "**Перавозчык 3**" (Францыя, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
16 кастрычніка – у 20:00
17, 18 кастрычніка – у 17:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Суперкаманда**" (Іспанія, без узроставых абмежаванняў)
17 кастрычніка – у 13:30
18 кастрычніка – у 14:00
Цана білета: 20 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фантастыка, прыгоды "**Марсіянін**" (3D, ЗША, пасля 16 год)
16, 18 кастрычніка – у 18:00
17 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Меладрама "**Радзіма**" (Расія, пасля 16 год)
16, 18 кастрычніка – у 20:40
17 кастрычніка – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Кунг-фу Трусік: Валадар агню**" (3D, Кітай, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
17 кастрычніка – у 12:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Сямейны, фэнтэзі, прыгоды "**Пэн: Падарожжа ў Нетландыю**" (3D, ЗША)
17 кастрычніка – у 14:00
18 кастрычніка – у 13:00, у 16:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Фантастыка, баявік "**Бягучы ў лабірынце: Выпрабаванне агнём**" (3D, ЗША, пасля 16 год)
17 кастрычніка – у 16:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Анімацыя "**Перапалох у джунглях**" (3D, Паўднёвая Карэя, Мексіка, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
18 кастрычніка – у 14:20
Цана білета: 15 000 рублёў

Тэл. **8(01771) 5-68-59**

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 4 | | 5 | | | | | |
| 5 | | | 6 | | 7 | | | 8 |
| 7 | | | 8 | 9 | | | | |
| | 1 | | | | | | 6 | 3 |
| | 2 | | | 8 | | | 4 | |
| 8 | 6 | | | | | | 7 | |
| | | | | 2 | 9 | | | 4 |
| 4 | | | 1 | | 8 | | | 6 |
| | | | | | 5 | | 1 | |



Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

ISSN 1991-7155

**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на Rh.by


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27


● НАДВОР'Е

## 17 кастрычніка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -1 / +9 | | +2 / +12 | | +4 / +10 | | +8 / +11 | |
| | 751 | ↖ 4 | 746 | ↑ 5 | 741 | ↗ 2 | 741 | → 5 |
| Вільня | +5 / +8 | | +5 / +11 | | +7 / +11 | | +9 / +9 | |
| | 759 | ↖ 6 | 750 | ↑ 2 | 750 | ↑ 2 | 750 | ↙ 2 |

Тэмпература паветра. Воблачнасць, ападкі. Ціск (мм рт. сл.). Хуткасць ветра м/с. Усход, захад па Маладзечне.

Усход 7.45
Захад 18.10
Даўжыня дня 10.25

Усход 12.02
Захад 20.40
Квадра 1




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

НАРАЧ (КУПА)

Мінімальная тэмпература -4,4 °С у 1984 годзе
Максімальная тэмпература +15,2 °С у 1983 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 15,2 мм у 2008 годзе
Паводле meteoinfo.by

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ВІЛЕЙЦЫ

# Што б вы хацелі, каб змянілася ў Вілейцы да раённых "Дажынак"?



**Кацярына Бандарэнка, выхавальніца:**
– Трэба звярнуць увагу на радзільню. Яна палохае знешнім выглядам ды яшчэ знаходзіцца каля трупярні. Як доўга яна будзе так выглядаць? Вакзал – гэта вароты горада, з-за іх выгляду ў гасцей можа скласціся дрэннае ўражанне пра Вілейку. Хаця на самой справе горад вельмі ўтульны.



**Святлана Круцько, у дэкрэтным адпачынку:**
– У першую чаргу варта звярнуць увагу на радзільню. Адзін знешні выгляд пужае. У горадзе паўсюль усё фарбуюць, добраўпарадкуюць. А радзільня чамусьці не мяняецца. А гэта ж месца, дзе нараджаюцца нашы любімыя і доўгачаканыя дзеці.



**Вячаслаў Колбун, тэхнік:**
– Горад увесь час добраўпарадкуюць, таму ён вельмі прыгожы. Але вось працоўных месцаў вельмі мала, людзям даводзіцца ездзіць у іншыя гарады на працу, на заробкі. Аднак гэта да "Дажынак" выправіць наўрад ці змогуць – гэта з разраду фантастыкі.

Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.
Гэтыя і іншыя адказы чытайце на сайце Rh.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Калі ў сям'і ёсць алкаголік, гэта бяда для ўсіх. Як змагацца з навалай, дзеляцца досведам тыя, хто выпрабаваў такое на сабе.




Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№42 (1068) 16.10.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1320. Падпісана ў друк у 9.00 15.10.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.